11 верасня 2015 | № 34 (451)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Хто вычарпаў ліміт рэвалюцый?

стар. 4



# Нас не нахіляць?

## Крэмль агучыў цікавыя ініцыятывы, якія наўпрост тычацца Беларусі



Сяргей ПУЛЬША

Першая ініцыятыва — гэта даўно абяцанае Рыгоравічам стварэнне ваенна-паветранай базы Расіі ў Беларусі. Урад Расіі вырашыў перадаць на подпіс Пуціну пагадненне з Мінскам аб расійскай авіяцыйнай базе на беларускай тэрыторыі.

Як адзначаецца на сайце расійскага ўрада, «палажэнні пагаднення доўгатэрмінова замацуюць расійскую ваенную прысутнасць у рэгіёне і будуць садзейнічаць умацаванню яго бяспекі».

Гэтая ініцыятыва Крамля вельмі балюча б'е па іміджу Аляксандра Рыгоравіча перад выбарамі. Найперш, яна разбурае ягоны імідж «міратворцы». Лукашэнка нават у інтэрв'ю незалежным СМІ падкрэсліваў: хоць у нас і ёсць на тэрыторыі расійскія аб'екты, але яны «мірныя»: радыёлакацыйныя станцыі ў Ганцавічах і Вілейцы. Нават пра звяно расійскіх знішчальнікаў у Баранавічах ён казаў, што, «можа, тыя ўжо і зляцелі».

Калі ў Беларусі будзе створаная паўнавартасная вайсковая расійская база, не выключана, што ў такім разе ўсе «мінскія дамоўленасці» будуць абмяркоўвацца ў іншым месцы.

Ёсць і другі бок гэтага медалю. Тэму расійскай ваеннай прысутнасці ў краіне актыўна педалюе апазіцыя. Да таго ж, паводле чэрвеньскага апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва), 45% беларусаў адмоўна паставіліся да ідэі размясціць у краіне расійскую авіябазу.

Педаляваннем пытання пра базу акурат напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў Масква падклала калі не свінню, дык падсвінка Аляксандру Рыгоравічу. Адмовіцца ад свайго скрайне непапулярнага абяцання ён не можа. І гэта дае маленькі, але бяспройгрышны козыр ягоным апанентам. Маўляў, сённяшні кіраўнік дзяржавы ставіць у небяспеку наш «мір і стабільнасць», абяцаючы Расіі стварэнне вайсковых базаў, а вось мы — супраць. І гэта мы за мірную і незалежную Беларусь, а не ён.

Другую свінку малодшаму брату падклаў непасрэдна Пуцін. Ён унёс на разгляд у Дзярждуму законапраект, які прадугледжвае адмову ад долара і еўра ў разліках паміж краінамі СНД.

Згодна з паведамленнем на сайце кіраўніка Расіі, у межах «Пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне арганізацыі інтэграванага валютнага рынку дзяржаў — удзельніц СНД» будзе створаны механізм, які дазволіць адмовіцца ад долара і еўра ў якасці прамежкавай валюты ў разліках.

Пагадненнем прадугледжваецца наўпроставы допуск банкаў-рэзідэнтаў бакоў на ўнутраныя валютныя рынкі адзін аднаго для правядзення міжбанкаўскіх канверсійных аперацый на ўмовах не менш спрыяльных, чым тыя, якія прадастаўлены нацыянальным камерцыйным банкам.




У што гэта можа выліцца? Найперш, пакладзе канец беларускаму экспарту, 50% якога прыпадае на Расію. Калі зараз мы яшчэ можам выцягніць з расійскіх кампаній цвердую валюту ў якасці аплаты за нашыя тавары, то потым мы цалкам будзем пастаўленыя ў залежнасць ад нестабільнага расійскага рубля. І цяпер ступень гэтай залежнасці недаацэньваць не прыходзіцца — амаль усе нашы апошнія дэвальвацыі здарыліся пасля падзення расійскай валюты. А ўжо калі мы ва ўзаемаразліках поўнасцю пяройдзем на суседнюю валюту — увогуле будуць кранты.

Цікавая і ідэя пра «наўпроставы допуск банкаў-рэзідэнтаў бакоў на ўнутраныя валютныя рынкі адзін аднаго». Гэта значыць, у сінявокую прыйдуць расійскія дзяржаўныя банкі. Якія, канешне, не змогуць не скарыстацца момантам па скупцы «нашай» валюты. Няцяжка прадказаць, што тады здарыцца з нашым валютным рынкам.

Ёсць яшчэ шэраг іншых, больш дробных нюансаў у такой сітуацыі, але адмыслоўцы сыходзяцца на адным: праз такія разлікі эмісійны цэнтр у Маскве будзе дэ-факта кантраляваць слабыя эканомікі краінаў СНД. Эканаміст Барыс Жаліба нават лічыць, што ў выніку праз расійскі рубель мы можам страціць суверэнітэт.

Такім чынам, Масква двойчы падрывае перадвыбарчы слоган Аляксандра Рыгоравіча «За будучыню незалежнай Беларусі». Якая можа быць незалежнасць, калі ў краіне — чужыя войскі, чужыя банкі і чужыя грошы?

Але чаму Пуцін зрабіў гэта зараз, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў?

Па меркаванні палітолага Валера Карбалевіча, гэта зроблена таму, што менавіта ў электаральны час кіраўнік Беларусі апынуўся асабліва ўразлівым. «Заявы Крамля разлічаныя, пралічаныя і трапілі ў болевую кропку. Невыпадкова беларускі бок у адказ на гэтыя ініцыятывы маўчыць. Бо яны разбураюць перадвыбарчую праграму Лукашэнкі пра мір, стабільнасць і незалежнасць Беларусі», — зазначае эксперт.

Масква давіць на Лукашэнку, пераследуючы дзве мэты, лічыць палітолаг. Першая — усё ж дамагчыся падпісання пагаднення пра вайсковую базу. І другая — не дапусціць, каб «нармалізацыя адносінаў з Захадам» у Беларусі зайшла вельмі далёка.

Што атрымаецца са спробы Крамля «нахіліць» Лукашэнку — пытанне адкрытае.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. Сям'ю Годараў судзілі за «жыллёвы» пікет у цэнтры горада



**8 верасня ў Гомелі адбыўся суд над Яўгенам і Азаліяй Годарамі, якія зладзілі пікет у цэнтры горада.**

Выйсці на вуліцу з плакатам іх прымусіла нявыкананая дамова аб будаўніцтве жылля.

«Мы будавалі кватэру, былі інвестарамі. Нас падманулі, не выканалі дамову. Адрэзалі нашу прыбіральню і загналі нас у склеп. Старшыня адміністрацыі Гарбачоў заявіў, што мая плошча — гэта склеп пад падлогай, якога няма», — кажа Азалія Годар.

Пасля першага звароту ў суд Годары адчулі на сабе ганенні і паклёпы, аднак змаганне не спынілі. Яны прайшлі праз розныя інстанцыі і больш за два дзясяткі судоў, але нічога не дабіліся. Прычыну гэтага сям'я бачыць у карупцыйнай схеме, галоўную ролю ў якой адводзіць кіраўніку таварыства ўласнікаў жылля.

На пікеце сямейная пара разгарнула плакат з тэкстам: «Якія «выбары», калі расквітнела карупцыя? Прававы нігілізм — кругавая парука. Суды — цацка ў руках бязмежнікаў. Адміністрацыя — выканкам — пракуратура. Мы пацярпелыя падманутыя дольшчыкі! Мы трапілі пад ганенні!».

Праз некаторы час Годараў затрымала міліцыя і склала на іх пратакол. Паводле рашэння суда, кожны з пікетчыкаў вымушаны выплаціць штраф у памеры 360 тысяч беларускіх рублёў.

**«Гомельская Вясна»**

### ВІЦЕБСК. У бацькоў патрабуюць распіскі



**У сярэдняй школе № 38 Віцебска ад бацькоў на сходах патрабуюць распіскі, што яны прыйдуць на датэрміновае галасаванне і прагаласуюць за Лукашэнку.**

Пра гэта каардынатару аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» на Віцебшчыне Тацццяна Севярынец паведаміла маці аднаго з першакласнікаў падчас збору подпісаў за якасную медыцыну.

«Калі раней яны рабілі сходы падчас датэрміновага галасавання і прасілі бацькоў прыйсці з пашпартамі, то зараз нахабна бяруць распіскі з такімі ўмовамі», — адзначае Тацццяна Севярынец.

Прадстаўнікі БХД у Віцебску і на Віцебшчыне маюць намер праверыць, ці існуе такая практыка ў іншых школах рэгіёну.

**Паводле bchd.info**

### БРЭСТ. Засакрэчаныя камісіі



**Паводле незалежнага назіральніка Уладзіміра Вялічкіна, першыя пасяджэнні сфармаваных участковых камісій адбыліся па-за ўвагай грамадскасці.**

Уладзімір Вялічкін нагадаў, што, у адпаведнасці з артыкулам 13 Выбарчага кодэксу РБ, выбары ў нашай краіне павінны адбывацца адкрыта і галосна. Гэта тычыцца і права любога выбаршчыка, які пражывае на тэрыторыі пэўнай выбарчай тэрытарыяльнай адзінкі, мець магчымасць прысутнічаць на пасяджэнні камісій і атрымліваць інфармацыю пра яе дзейнасць. Але атрымаць звесткі пра графік пасяджэнняў участковых камісій пакуль немагчыма.

Вялічкін таксама адзначыў, што звяртаўся з запытам у тэрытарыяльную камісію Маскоўскага раёна Брэста з просьбай прадаставіць інфармацыю пра сябраў участковых камісій, але атрымаў адмову.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

### БЯРОЗА. КДБ не пакідае ў спакоі ўдзельнікаў пахавання Чаркашына



**Прадстаўнікі камітэта дзяржбяспекі абтэлефаноўваюць удзельнікаў пахавання Алеся Чаркашына, які загінуў ва Украіне.**

Упрыватнасці, з КДБ патэлефанавалі кіраўніцтву прадпрыемства, дзе працуе адзіны дэмакратычны дэпутат, сябар аргкамітэту БХД Валер Білібуха з Бярозаўскага раёна.

Спецслужбы цікавала, чаму ён 3 верасня быў не на працоўным месцы, а ў Брэсце.

Па словах Білібухі, супрацоўнікі КДБ перапісвалі нумары ўсіх аўтамабіляў, якія былі на могілках падчас пахавання Чаркашына. Сярод іх была і машына дэпутата.

**bchd.info**

# Прызнанне выбараў стане катастрофай

**Павал Севярынец патлумачыў, чаму нельга прызнаваць вынікі кастрычніцкіх выбараў.**

— Наша пазіцыя простая і зразумелая: выбараў у Беларусі няма. Інфармацыю пра гэта нам трэба даводзіць да народа — на сустрэчах, з дапамогай інтэрнэту і друкаванай прадукцыі. Гэтую працу апазіцыя павінна весці цяпер і найбліжэйшыя месяцы.

Лідары дэмакратычнай апазіцыі павінны гаварыць аб фальсіфікацыі «выбараў», пра тое, што нельга прызнаваць іх «вынікі» не толькі ў краіне, але і на ўсіх сустрэчах з заходнімі лідарамі, у якіх яны бяруць удзел, — у Еўрапейскім парламенце, ПАРЕ, АБСЕ. Еўрапейскіх палітыкаў трэба пераканаць у тым, што сапраўдных «выбараў» у Беларусі не было і няма. Прызнанне іх вынікаў стане катастрофай.

Захад можа, выкарыстоўваючы сітуацыю, якая цяпер складваецца, прымусіць рэжым зрабіць канкрэтныя крокі ў бок дэмакратыі. Неабходныя для гэтага прылады і шырокі спектр рычагоў ціску, якія рэальна працавалі раней, у ЕС і ЗША ёсць, патрэбная толькі палітычная воля. Гэта спрацавала, напрыклад, у Польшчы ў часы «Салідарнасці», гэта спрацуе і ў дачыненні да сённяшняй Беларусі. Сітуацыя складаная, але нельга забываць аб тым, што з гістарычнага і геапалітычнага пункту гледжання наша краіна — ключавы пункт для ўсяго рэгіёну. Перамены ў Беларусі важныя і для Украіны, і для Расіі.

**Паводле charter97.org**

# «Новы час» зноў не пусцілі ў дзяржаўны распаўсюд

Аксана КОЛБ

**Кіраўніцтва РУП «Белсаюздрук» не мае «тэхнічнай» магчымасці для распаўсюду «Новага часу» праз сваю сетку і абяцае вярнуцца да гэтага пытання напрыканцы года.**

24 жніўня пасля шматгадовага перапынку рэдакцыя «Новага часу» вырашыла зноў звярнуцца да «Белсаюздруку» з просьбай пра заключэнне дамовы на распаўсюд газеты праз гандлёвую сетку гэтай дзяржаўнай установы.

Да гэтага некалькі разоў мы ўжо атрымлівалі адмовы. Але гэтым разам, на хвалі чарговай нібыта лібералізацыі, спадзяваліся, што нарэшце нашы чытачы змогуць набываць нашу газеты праз шапікі, а не праз рэдакцыйную падпіску. Дарэмна.

«Новы час» — напісалі мы ў заяве на распаўсюд, — штотыднёвік, які надае вялікую ўвагу нацыянальнай гістарычнай і культурнай тэматыцы, друкуецца на беларускай мове і актыўна прапагандуе дзяржаўную палітыку, у той частцы, якая накіравана на захаванне і ўмацаванне незалежнасці Рэспублікі Беларусь, а таксама на захаванне і распаўсюд беларускай мовы».

Ці то дзяржаўная палітыка ў нас іншая? Ці прапагандуем мы яе няправільна? Ці сапраўды ніякай магчымасці нас распаўсюджваць у РУП «Белсаюздрук» няма? Як вы думаеце?

# Адзіная зброя — беларуская мова

Арцём ЛЯВА

**Тэма круглага стала, што адбыўся на сядзібе БНФ у Дзень беларускай вайсковай славы, гучала так: «Рускі свет» як надзёнагая пагроза сучаснай Беларусі».**

Умерапрыемстве, арганізаваным грамадскай актывісткай Ганнай Шапуцька, прынялі ўдзел прадстаўнікі Партыі БНФ, АГП, «Маладога Фронту», Руху салідарнасці «Разам», Руху «За Свабоду», «Беларуская руху».

Ва ўступным слове Ганна Шапуцька адзначыла, што беларускае грамадства мусіць, пакуль не позна, супрацьстаяць «рускаму свету», які паступова па ўсіх кірунках захоплівае Беларусь.

Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч падкрэсліў, што асноўная пагроза нацыяналістычным інтарэсам Беларусі палягае на Усходзе. Паводле яго слоў, па прычыне масіраванай прапаганды і моцнага культурніцкага ўплыву з боку Расіі ідэя «рускага свету» валадарыць у галовах многіх беларусаў, якія гатовыя, умоўна кажучы, выступіць «5-й калонай». Янукевіч мяркуе, што існуе рэальная пагроза ўнутранай акупацыі. Да таго ж, паводле слоў старшыні ПБНФ, Расія зрабіла высновы з падзеяў ва Украіне, калі кулуарных дамоваў з былым прэзідэнтам Украіны Януковічам аказалася недастаткова для пашырэння «рускага свету» на поўдзень. Дзякуючы супрацьву грамадства перамог Еўрамайдан. Цяпер Масква актыўна «апрацоўвае» грамадскі сектар у Беларусі.

Адзін са складальнікаў спісу «Чорная сотня», старшыня зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога Фронту» Зміцер Дашкевіч адзначыў, што адзіная сур'ёзная зброя супраць пашырэння рускай ідэалогіі на сённяшні дзень — беларуская мова. Зміцер заклікаў як мага часцей карыстацца роднай мовай у публічнай прасторы і заахвочваць размаўляць па-беларуску сваякоў і сяброў.

Па выніках круглага стала была створана працоўная група для падрыхтоўкі форума і распрацоўкі дакументаў, якія будуць на ім прынятыя. Хутчэй за ўсё, пашыранае мерапрыемства на тэму пагрозы «рускага свету» з удзелам палітыкаў і грамадскіх актывістаў адбудзецца ў лістападзе.

# Патрэбна ваша дапамога

Вольга САКАЛОЎСКАЯ

**1 верасня ўжо даўно прайшло. На жаль, склалася так, што выхаванцы Малоткавіцкай дапаможнай школы-інтэрната (Брэсцкая вобласць) маюць вострую патрэбу ў вашай падтрымцы, не хапае нават такіх дробязяў, як асадкі і сшыткі.**

Школа-інтэрнат звяртаецца да чытачоў з велізарнай просьбай аб дапамозе ў зборы неабходных для рэчаў.

Школе вельмі патрэбныя:

Сшыткі (клетка і лінейка); вокладкі для сшыткаў; вокладкі для кніг; альбомы для малявання; алоўкі каляровыя; алоўкі простыя; фарбы акварэльныя, а таксама гуаш; папера каляровая; каляровы кардон; клей ПВА + пэндзлікі для клею; пэндзлікі для малявання; асадкі шарыкавыя; пластылін; лінейкі.

Вы можаце набыць што-небудзь са спісу і перадаць валанцёрам праекта «Рабі дабро» пры асабістай сустрэчы альбо зрабіць ахвяраванне на электронны кашалёк EasyPay 33694631 альбо на дабрачынны рахунак у ААТ АСБ Беларусбанк.

Справаздача аб сабраных ахвяраваннях будзе апублікавана ў раздзеле «Поступления». Пасля перадачы канцтавараў на сайце v-shkolu.by будзе апублікаваная фотасправаздача.

Не заставайцеся абыякавымі, падарыце дзецям шанец вучыцца нароўні з іншымі, бо яны і так шмат чаго пазбаўленыя!

Па ўсіх пытаннях, звяртайцеся да анлайн-кансультанта на нашым сайце, на пошту office@dobrotvori.by альбо па тэлефоне +375 (25) 6186280

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У чаканні праграмных выступаў

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Што ні кажыце, але я, бадай, упершыню вельмі хачу пабачыць эканамічную праграму кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі на гэтых выбарах. Зазвычай прэтэндэнты на пасаду кіраўніка дзяржавы абяцаюць нам нябесны рай на зямлі. Але зараз ён абяцае нам, наадварот, цяжкасці.**

Пакуль людзі адыходзяць ад «валацільнасці» беларускага рубля і па звычцы зазіраюць на табло абменнікаў: наколькі яшчэ вырас курс долара? Так, у апошнія тыдні жніўня рубель патаннеў на 17%, потым крыху падрос, і зараз працягвае падзенне. Здавалася, што ў гэтым добрага для насельніцтва? А вось ёсць добрае! На тыдні Аляксандр Рыгоравіч нават пахваліў Нацбанк за тое, што ён не стрымлівае нацыянальную валюту ад падзення.

«Дзякуючы таму, што мы перайшлі на плаваючы курс і ні ў якім выпадку штучна не стрымліваем курс нацыянальнай валюты ў адносінах да іншых валют, нам усё ж такі ўдалося пераканаць насельніцтва, што мы з ім у гульні гуляць не будзем. І гэта правільна, нам трэба прытрымлівацца падобнай пазіцыі», — заявіў Лукашэнка, прымаючы з дакладам кіраўніка Нацбанка.

Зразумелі, у чым карысць? Прэтэндэнт на далейшае кіраванне краінай лічыць добрым, што прызвычаіў сваё насельніцтва да пастаянных «валютных стрэсаў». «У гульні гуляць не будзем» — і кропка. А вы, шаноўныя жыхары краіны, выкручвайцеся самі, як хочаце.

«Якое хочаце ўжывайце кіраванне, абы ад гэтага быў вынік — сёння не да раскошы. У нас наперадзе, магчыма, яшчэ больш складаныя часы, і дай Бог нам вось так прайсці, як мы сёння ідзем. Сітуацыя ў свеце ад нас не залежыць. Мы павінны да яе прыстасавацца, і мы гэта павінны разумець», — звыкла ківае Аляксандр Рыгоравіч на нейкі «сусветны крызіс».

Як гэта можна праканментаваць? Па-першае, сапраўды, мы не адасобленыя ад «сітуацыі ў свеце». Мы — не Паўночная Карэя, якая ад астатняга свету адгарадзілася жалезнай заслонай. Але важна і разумець, што калі мы — частка сусвету, то мы і таксама ўплываем на гэтую сусветную сітуацыю, і самі павінны вызначаць сваё месца ў свеце.

Канешне, мы не вінаватыя ў тым, што расійская эканоміка крыху больш, чым поўнасцю залежыць ад коштаў на нафту. Але хто, калі не мы, вінаваты ў тым, што наша беларуская эканоміка больш чым напалову залежыць ад адной краіны — Расіі? А хто прымаў рашэнне пра ўсялякія інтэграцыі з «родным вялікім братам»? Ці не персанальна Аляксандр Рыгоравіч падпісваў усе гэтыя дамовы? І «сітуацыя ў свеце» тут ні пры чым.

Чыімі намаганнямі мы адрэзаныя ад сусветных інвестыцыяў, ад сусветных тэхналогій? Хто нам увесь час казаў пра «беларускую мадэль развіцця», і пра тое, што «ў савецкіх — уласны гонар»? Ці варта яму зараз спіхваць усё на «сітуацыю ў свеце»? Таму што насамрэч сітуацыя ў свеце нармальная. Гэта ў нас праблемы, пра гэта ўжо казалася.

Па-другое, «у гульні гуляць не будзем», і «наперадзе больш складаныя часы»... Ці варта разглядаць гэтыя словы так, што мы адмаўляемся ад «сацыяльна арыентаванай дзяржавы»? Ці ёсць гэта прызнаннем, што беларускі «эканамічны цуд» лопнуў, як мыльная бурбалка?

Таму і цікава будзе паглядзець на праграму кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнкі А.Р. Куды нас надалей плануе весці наш правадыр. У якую будучыню? Калі ў цемру «складаных часоў» — дык, можа, варта змяніць рулявога? Калі ў «светлую будучыню», то цікава, як будзе дасягацца гэтая будучыня?

Пакуль нам прапанавалі вельмі цікавы варыянт вырашэння валютнай праблемы. Рашэнне палягае ў тым, каб проста заплюшчыць вочы і не звяртаць увагі на долар, — нібыта і не існуе яго ўвогуле. «Звычайныя людзі ў нас усё могуць купіць у Беларусі за беларускія рублі», — паведаміў беларускі кіраўнік.

Класная парада, і не паспрачаешся. Канешне, у нас усё можна купіць за беларускія рублі. Але пытанне не ў тым, што можна, — пытанне ў тым, колькі гэта каштуе «за беларускія рублі». Бо наша эканоміка «імпартаарыентаваная» не менш за «экспартаарыентаваную». Я не кажу ўжо пра асноўныя выдаткі на вытворчасць — нафту і газ, якія мы закупляем выключна за долары. Рухавікі для МАЗаў мы набываем не толькі ў «саюзнічкаў» у Яраслаўлі. На МАЗаўскія аўтобусы ўсё часцей ставяцца «дзвіжкі» Mercedes-Benz і Deutz. Каробкі перадачаў — пераважна Voith і ZF. Увогуле, калі пакапацца ў спецыфікацыі, напрыклад, аўтобуса МАЗ-103, узнікае пытанне, што там беларускага. Тое ж тычыцца і тэлевізараў «Гарызонт», і іншай складанай тэхнікі, якую прынята называць «гонарам беларускай прамысловасці» — «начынне» амаль усё замежнае.

І на ўсё гэтае патрэбныя долары. А значыць, не зважаць на «замежных прэзідэнтаў» проста не атрымаецца — ад іх стану наўпрост залежаць кошты ў крамах.

І звыкла, у савецкай традыцыі, нам прапанавана «раскулачыць» тых, хто добра жыве. Ужо, канешне, не так добра, як раней, а ўсё роўна «кулацтва». Бо раней, у крызіс 2011 года, Аляксандр Рыгоравіч казаў пра «народзец», які прыганяў з-за мяжы па «тры-пяць аўтамабіляў». Зараз размова ідзе ўжо пра адзін аўтамабіль і тры-пяць тэлевізараў.

«Менш мяне — хай гэта непапулярна — хвалююць тыя людзі, якія па тры, па пяць тэлевізараў куплялі або купляюць, аўтамабілі могуць сабе купіць», — паведаміў Лукашэнка. Хоць «менш», але ўсё ж такі хвалююць! А значыць, трэба чакаць нейкіх чарговых навацыяў у падаткаабкладанні. Напрыклад, ужо не «дарожны збор», а «тэлевізійны».

Хаця наўрад ці гэтыя навацыі прывядуць да чагосьці выніковага. Як з падаткам на дармаедства: узварушылі краіну, а сэнсу — нуль. Дакладней, не зусім нуль, а 55. Са жніўня беларускія гультаі атрымалі магчымасць датэрмінова выплаціць падатак са зніжкай у 10%. За месяц гэтым скарысталіся толькі 55 «дармаедаў». Што ва ўмовах 4,5-мільённага «эканамічна актыўнага насельніцтва» і 1% афіцыйнага беспрацоўя паказальна — ніхто добраахвотна гэты падатак плаціць не будзе.

Сапраўды, а за што плаціць? Між іншым, нам дагэтуль не патлумачылі, куды пойдуць сабраныя з «дармаедаў» грошы. Калі гэты падатак уводзілі, казалі пра «кампенсацыю бясплатных паслуг у паліклініках, дзіцячых садках, якімі дармаеды карыстаюцца, а падаткаў не плоцяць». Але гэта ўсё абстракцыя. Напрыклад, у мінулым годзе з «дарожнага збору» рэспубліканскі бюджэт атрымаў 800 мільярдаў рублёў, і яшчэ 341 мільярд — ад платных дарог. Але выдаткі на дарогі павялічыліся толькі на 600 мільярдаў.

Можа, лепш Лукашэнку ў эканамічнай праграме патлумачыць, куды дзяваюцца нашы грошы?

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

## Алесь Міхалевіч

**Экс-кандыдат у прэзідэнты вярнуўся ў Беларусь.**



Як адзначыў Міхалевіч, ён даўно казаў, што вернецца, калі выпусцяць Алеся Бяляцкага і Міколу Статкевіча. І стрымаў сваё слова.

Зразумела, Міхалевіча затрымалі на мяжы, бо ён дасюль з'яўляецца фігурантам справы аб «Плошчы–2010». Аднак яго адпусцілі з міліцыі. Следчы камітэт даслаў паперчыну пра тое, што, калі Міхалевіч вярнуўся на радзіму добраахвотна, то няма падставаў яго саджаць у камеру. Міхалевічу было прапанавана толькі падпісаць падпіску аб нявыездзе.

Зрабіць гэта ён адмовіўся, і тым не менш застаўся на волі. Сам ён гэтага не разумее. «Цяпер я знаходжуся пад падпіскай аб нявыездзе, хаця саму падпіску я не падпісаў. Гэта нейкі нонсэнс. Атрымліваецца, што раней я не мог уехаць на тэрыторыю Беларусі, а цяпер не магу выехаць», — сказаў ён.

Алесь Міхалевіч удзельнічаў у прэзідэнцкіх выбарах 2010 года. 19 снежня, пасля акцыі апазіцыі ён быў затрыманы, правёў у следчым ізалятары КДБ каля двух месяцаў, абвінавачваўся па крымінальнай справе «арганізацыя масавых беспарадкаў». У турме КДБ ён падпісаў згоду пра супрацоўніцтва з КДБ. Гэта дазволіла яму выйсці на волю, аднак ён распавёў журналістам пра катаванні ў СІЗА КДБ, адмовіўся ад супрацоўніцтва і з'ехаў з краіны. Пазней такім жа чынам зрабіў і Уладзімір Кобец з каманды іншага кандыдата ў прэзідэнты — Андрэя Саннікава.

## Аляксандр Барсукоў

**Начальнік мінскай міліцыі прыемна здзівіў былога палітвязня і экс-кандыдата ў прэзідэнты Міколу Статкевіча.**



Пачалося з таго, што Статкевіча выклікалі ў ГУУС Мінгарвыканкама наконт яго далейшых планаў па правядзенні розных пікетаў і сустрэчаў з выбаршчыкамі. «Я знаходжуся на прафілактычным уліку і абавязаны з'яўляцца ў міліцыю. Мяне запрасілі ў ГУУС Мінгарвыканкама. Завялі ў нейкую залу, там куча відэакамер. Сядзіць сапраўдны прэзідыум на чале з генерал-маёрам, падстрыжаным пад вожык. Той генерал адразу пачаў сваю прамову, што я парушаю заканадаўства, збіраю несанкцыянаваны пікет. Я кажу: «Вы так кажаце натхнёна, але я вас нават не ведаю. Аказалася, што гэта начальнік мінскай міліцыі Аляксандр Барсукоў», — распавёў Статкевіч.

Па словах Статкевіча, у размове з ім спадар Барсукоў «настолькі расхваляваўся, што дарэшты забыўся ўсе замежныя мовы і пачаў размаўляць па-беларуску». «І вельмі добра казаў!» — у захапленні адзначыў Статкевіч.

Статкевіч адмовіўся падпісваць нейкія паперы, — усё ж яго запрасілі на гутарку, а не на падпісанне. Але, відаць, з прычыны беларускай мовы Барсукова экс-палітвязень адзначыў, што «ў добрым настроі сышоў з міліцыі».

## Максім Мірны

**Беларус Мірны і аўстралійка Радзівонава не змаглі прабіцца ў паўфінал US Open у спаборніцтвах змешаных пар.**



У чвэрцьфінальным матчы яны аказалі ўпартае супраціўленне чэшскай тэнісістцы Андрэа Хлавачкавай і паляку Лукашу Кубату, але саступілі ў двух сэтах з аднолькавым лікам 4:6 і завяршылі выступленне ў Нью-Ёрку.

Нагадаем, што ў першым туры Максім Мірны і Анастасія Радзівонава ў двух сэтах з лікам 6:2, 6:4 абыгралі дуэт з Румыніі Анду Перыану і Андрэя Даеску.

У другім туры з лікам 6:4, 6:3 Мірны і Радзівонава абыгралі інтэрнацыянальны дуэт Ракель Копс-Джонс (ЗША) і Равену Клаас (ПАР).

У мінулыя гады Максім Мірны тройчы станавіўся чэмпіёнам US Open у міксце — у 1998 годзе (з амерыканкай Серэнай Уільямс), 2007-м (з Вікторыяй Азаранка) і 2013-м (з Андрэа Хлавачкавай).

З беларускіх тэнісістаў у заключным турніры серыі «Вялікага шлема» засталася толькі Вікторыя Азаранка, якая займае 20-е месца ў сусветным рэйтынгу. Раней не здолела прайсці ў трэці раунд адзіночнага разраду US Open Вольга Гаварцова.

а | Азбука паліталогіі

# Хто вычарпаў ліміт рэвалюцый?



Сяргей НІКАЛЮК

**З пэўнага моманту кожная аўтарытарная дзяржава пачынае жыць пад дыктоўку надыходзячай рэвалюцыі.**

Калі верыць шматлікім заявам адзінага палітыка (АП), ліміт рэвалюцый у Беларусі вычарпаны. Дый пра якія рэвалюцыі можа ісці гаворка ў геаграфічным цэнтры Еўропы, галоўнай характарыстыкай якога з'яўляецца стабільнасць?

Аднак прыхільнікам мірнага (эвалюцыйнага) развіцця беларускай мадэлі я б не раіў пляскаць у ладкі. На камбінацыю словаў «Лукашэнка, імем рэвалюцыі» Google адгукаецца 95,5 тыс. спасылак.

Імем рэвалюцыі АП спыніў бандыцкую прыватызацыю ў сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Імем рэвалюцыі ў тыя ж гады пад яго кіраўніцтвам адпрацоўваліся эфектыўныя схемы рэалізацыі калійных угнаенняў на знешніх рынках. Імем рэвалюцыі на выхадзе чацвёртай пяцігодкі ён прымушаў будаўнікоў выпраўляць недаробкі, а півавараў — мадэрнізаваць сыравінную базу.

Спіс дарučэнняў АП з грыфам «Імем рэвалюцыі» ўвесь час папаўняецца. Складваецца ўражанне, што беларуская стабільнасць можа падтрымлівацца толькі ва ўмовах надзвычайнага становішча. Мір і спакой ёй супрацьпаказаныя.

## Размахванне шашкай як альтэрнатыва

Якім чынам спалучаюцца паміж сабой заявы пра вычарпанне ліміту рэвалюцый з пастаяннымі заклікамі вырашаць бягучыя кіраўнічыя задачы рэвалюцыйнымі метадамі? На гэта пытанне не так проста адказаць. Але, абапіраючыся на свой марксісцка-ленінскі бэкграўнд, я паспрабую вылучыць суб'ектыўныя і аб'ектыўныя фактары.

Пачну з суб'ектыўнага. Рэвалюцыйнасць у Беларусі дапускаецца ў той жа меры, што і палітыка. Г. зн. правам здзяйсняць учынкі імем рэвалюцыі надзелены адзін чалавек. Які менавіта — думаю, чытачы НЧ здагадаліся. АП = АР (адзіны рэвалюцыянер). Гэта тоеснасць, паводле Вікіпедыі, азначае роўнасць, што выконваецца на ўсім мностве значэнняў пераменных, якія ўваходзяць у яе.

Манаполія на рэвалюцыйнасць ахоўваецца гэтак жа жорстка, як і манаполія на палітычную суб'ектнасць. Нагадаю выпадак, які стаў хрэстаматыйным. Пры абмеркаванні вынікаў работы эканомікі ў першым паўгоддзі 2011 года прэм'ер-міністр Сяргей Сідорскі заступіў за чырвоную лінію. Ён паспрабаваў адсунуць тэрмін пагашэння крэдытаў дзяржпрадпрыемствамі, матывуючы сваю прапанову тым, «што за кожным заводам стаяць людзі». Рэакцыя АП была хуткай: «Я палітык, я павінен думаць пра людзей, а вы павінны думаць пра эканоміку і фінансы. У вас людзей няма. Забудзьцеся! У эканоміцы людзі не стаяць за грашыма і за трактарамі. Вы голы эканаміст».

Ролю «голага эканаміста» ва ўрадзе паслядоўна гулялі ўсе беларускія прэм'ер-міністры. Не з'яўляўся выключэннем і Міхаіл Мясніковіч. У лістападзе 2012 года ён паўтарыў промах свайго папярэдніка, прапанаваўшы імем рэвалюцыі «пайсці ў холдынг» прадпрыемствам гарбарнай галіны. Натуральна, АП ініцыятыву кіраўніка ўрада рашуча адхіліў, спаслаўшыся на адсутнасць згоды кіраўнікоў прадпрыемстваў аб'ядноўвацца. Важкі аргумент, пагадзіцеся.

Ад суб'ектыўнага фактару пяройдзем да фактару аб'ектыўнага. Вялікае, як вядома, робіцца бачным на адлегласці, таму паглядзім на беларускую мадэль з вышыні Астанкінскай тэлевежы.

Ліберальныя эксперты ў Расіі ўсё больш актыўна абвінавачваюць Крэмль у пераходзе на ручное кіраванне эканомікай. Прывяду фрагмент артыкула экс-старшыні Цэнтральнага банка Расіі Сяргея Дубініна, апублікаваны 19 жніўня ў газеце «Ведамасці»: «Відаць, магчымасць бесперапынна ўрывацца ў працэс прыняцця рашэнняў на любым узроўні — ад прадпрыемства да цэлай галіны, да краіны ў цэлым — стварае ілюзію поўнай кіравальнасці. Падкантрольнасць усіх і ўся — мэта прыцягальная, але заведама недасяжная».

Дубінін тлумачыць адмову ад рынкавых механізмаў рэгулявання эканомікі на карысць ручнога кіравання крызісам 2008–2009 гадоў. Магчыма, эксбанкір мае рацыю. Але ў Беларусі ад рынкавых механізмаў ніхто ніколі і не адмаўляўся, бо ніхто ніколі ўсур'ёз іх і не ўжываў. Беларуская мадэль ужо ў момант свайго нараджэння будавалася па лякалах сваёй савецкай папярэдніцы. Таму «магчымасць бесперапынна ўрывацца ў працэс прыняцця рашэнняў на любым узроўні» не варта разглядаць у якасці анамаліі. Гэта адна з базавых характарыстык беларускай мадэлі.

Права ўрывацца афармляецца ў зразумелай насельніцтву рэвалюцыйнай стылістыцы. Але гэта той самы выпадак, калі форма адпавядае зместу. Калі эканамічныя адносіны не выстройваюцца на падставе выразна прапісаных фармальных правілаў, у якасці альтэрнатывы застаецца размахванне шашкай.

## Параўнаем два паказчыкі

Дык ці вычарпаны ў Беларусі ліміт рэвалюцый? Для адказу на гэта пытанне перш за ўсё неабходна зразумець: рэвалюцыі адбываюцца не нашто, а чаму. «Ва ўсіх архаічных сістэм, — адзначае гісторык Уладзімір Булдакоў, — адзін канец: улада альбо закісае ад бязволля «самадзержцаў», альбо дранцвее ад тупасці бюракратыі. Да таго ж дастатак разбэшчвае — усе лічаць сябе абдзеленымі».

Улада бязвольная і ўлада здранцвелая — гэта, у першую чаргу, улада неэфектыўная. Мы можам бясконца спасылацца на «інтрыгі імперыялізму», але Арабская вясна пачалася з пратэстаў у Тунісе 18 снежня 2010 года пасля самаспалення вулічнага гандляра Махамеда Буазізі ў знак пратэсту супраць паліцэйскай карупцыі і жорсткага абыходжання.

Але нагоду не варта блытаць з прычынай. Той факт, што прыватная трагедыя спарадзіла масавыя пратэсты па ўсім Блізкім Усходзе і Паўночнай Афрыцы, сведчыў пра няздольнасць кіруючых элітаў быць носьбітамі «сапраўднага ісламу». Нагадаю, канцэпцыя падзелу царквы і ўраду чужая ісламу. Былы вярхоўны лідар Ірана аятала Хамейні аднойчы заявіў, што «іслам — гэта палітыка, і без яе ён нішто».

Рэспубліка Беларусь — дзяржава XXI стагоддзя, у якой да канца не вырашаны задачы буржуазнай рэвалюцыі, галоўнымі з якіх з'яўляюцца фарміраванне грамадства мадэрна (грамадзянскай супольнасці) і прававой дзяржавы. Адсутнасць прававой дзяржавы наглядна пацвярджаецца заклікамі АП (АР) вырашаць бягучыя задачы імем рэвалюцыі.

Індустрыялізацыя магчымая і без прававой дзяржавы. Стварэнне магутнага ваенна-прамысловага комплексу ў гады першых сталінскіх пяцігодак наглядна гэты тэзіс пацвярджае. Аднак пакуль няма прыкладаў, якія пацвярджаюць магчымасць пераходу ад індустрыяльнай да постіндустрыяльнай эканомікі пры адсутнасці прававой дзяржавы.

Колькі выдатных слоў было сказана ў Пасланні–2013 пра «мадэрнізацыю нашай эканомікі». Абмяжуюся адной цытатай: «Цяперашні этап сацыяльна-эканамічнага развіцця асаблівы. Ён патрабуе паскораных тэмпаў гэтага працэсу, працэсу мадэрнізацыі. Справа ў тым, што змена дамінуючых тэхналагічных укладаў, якая зараз адбываецца, адкрывае «акно магчымасцяў» для паспяховага выхаду на новую хвалю эканамічнага росту».

Мяркуючы па афіцыйнай статыстыцы, хваля эканамічнага росту абышла дзяржаўны сектар бокам. Скарыстацца «акном магчымасцяў» у Беларусі здолелі толькі прыватныя кампаніі. Параўнаем два паказчыкі. За першае паўгоддзе Белстат зафіксаваў падзенне беларускага экспарту на 26,3% адносна першага паўгоддзя мінулага года. Але за той жа перыяд Парк высокіх тэхналогій (ПВТ) нарасціў экспарт на 30%!

«Такім чынам, доля экспарту Парку высокіх тэхналогій у ЗША ў 1,5 разы перавысіла экспарт усіх астатніх галін эканомікі Беларусі разам узятых», — гаворыцца ў справаздачы ПВТ за паўгоддзе.

## Як пры Брэжневе

АП скончыў дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы. Здавалася б, пры наяўнасці савецкіх дыпломаў гісторыка і эканаміста ён павінен ведаць, да чаго прыводзіць неадпаведнасць вытворчых адносін і прадукцыйных сіл. А прыводзіць яна да рэвалюцыі. Гэта азбука марксізму.

Вытворчыя адносіны ў Беларусі паводле шэрагу параметраў знаходзяцца на ўзроўні сярэднявечча. З прадукцыйнымі сіламі ўсё не так адназначна. Тут мы маем поўны джэнтльменскі набор: ад прафесійных зборшчыкаў шклатары да айцішнікаў міжнароднага ўзроўню.

Сказаць, што напружанне, спароджанае класічнай марксісцкай неадпаведнасцю, сёння набліжаецца да крытычнага, значыць выдаць жаданае за сапраўднае. Аднак усе неабходныя трэнды ўжо сфармаваліся. І галоўны трэнд нам рэгулярна дэманструе ўладная «вертыкаль» сваёй неадэкватнасцю ўзроўню як унутраных, так і знешніх выклікаў. Менавіта таму замест стратэгіі развіцця мы маем стратэгію выжывання, якая зводзіцца да архаічных спробаў узмацніць дысцыпліну і да надзеяў перачакаць цяжкія часы.

Гісторыя ў нашай цывілізацыйнай прасторы ходзіць па крузе. Гэта не навіна. Сёння пра надыход чарговага застою сведчыць актуальнасць анекдотаў з брэжнеўскіх часоў. Нагадаю два фрагменты:

*— Пры Хрушчове жылі, як у самалёце: адзін трымае штурвал, астатніх ванітуе.*

*— А пры Брэжневе?*

*— Пры Брэжневе, як у таксі: чым далей едзеш — тым даражэй.*

*Едзе цягнік. Раптам нечакана высвятляецца, што наперадзе адсутнічаюць рэйкі.*

*— Пры Леніне праблему вырашылі, сагнаўшы ўсіх пасажыраў на суботнік.*

*— А пры Брэжневе?*

*— Пры Брэжневе апусцілі фіранкі і пачалі разгойдваць вагоны, ствараючы ілюзію, што едуць.*

З пэўнага моманту для кожнай аўтарытарнай дзяржавы палітычная павестка пачынае канцэнтравацца на ўтрыманні ўлады. А гэта азначае, што жыць яна пачынае пад дыктоўку надыходзячай рэвалюцыі. Прадухіленне рэвалюцыі становіцца адзіным пунктам праграмы кіруючага класа. Тут ужо не да развіцця.

***

Для фінальнага акорда прыгадаю словы паліталога Уладзіміра Пастухова: «Змена ўлады ў аўтарытарнай дзяржаве магчымая альбо шляхам дзяржаўнага перавароту, альбо з прычыны рэвалюцыі. Калі доступ да ўлады — цалкам або часткова — можна атрымаць шляхам перамогі на выбарах, то такая дзяржава не з'яўляецца ў поўным сэнсе гэтага слова аўтарытарнай. Пра яе можна казаць толькі як пра недастаткова дэмакратычную дзяржаву».

Але гэта не наш выпадак.



# Мікалай Дзядок: «Дапамагала выжываць разуменне сваёй рацыі»

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Былы палітвязень з'язджае за мяжу і прызнаецца, што пакуль не гатовы прабачыць былых паплечнікаў, якія далі на яго паказанні.**



З Мікалаем Дзядком мы пазнаёміліся незадоўга да арышту, будучы аднагрупнікамі на завочнай паліталагічнай праграме ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. Сапраўднага ідэалагічна падкаванага анархіста я тады ўбачыла ўпершыню і была ўражаная яго начытанасцю і грунтоўнасцю. Праз два месяцы Мікалая арыштавалі, і наступны раз мы ўбачыліся толькі праз пяць з паловай гадоў.

За час зняволення Мікалай вонкава практычна не змяніўся — такі ж жвавы і ўсмешлівы хлопец. Былога зэка ў ім выдае толькі надзвычай кароткая стрыжка і сляды ад парэзаных венаў на руках — так Дзядок спрабаваў прыцягнуць увагу турэмнай адміністрацыі, якая некалькі разоў запар адпраўляла яго ў ШЫЗА. Пасля вызвалення Мікалай дарма часу не губляў: аднавіўся ў ЕГУ і з 1 кастрычніка распачынае вучобу па праграме «Сусветная палітыка і эканоміка» на дзённым аддзяленні ў Вільні.

### «У горацкай турме людзей маральна забіваюць»

***— Мікалай, як цяпер здароўе?***

— Жывы — гэта галоўнае. Буду зараз абследавацца ў лекараў. Спадзяюся, нічога страшнага не знойдуць.

***— Не шкада з'язджаць з краіны, толькі вярнуўшыся на волю да сваякоў і сяброў?***

— Канешне, шкада, але што рабіць — неабходна атрымаць вышэйшую адукацыю. Мне ўжо 27 гадоў, вечны студэнт… Трэба неяк свае веды сістэматызаваць і ўмацаваць. За пяць гадоў надакучыла самаадукацыяй займацца. Еду ж не адзін — з жонкаю.

***— Ты сядзеў у горацкай калоніі, у якой склалася надзвычай дрэнная рэпутацыя. Там жа адбываў пакаранне Зміцер Дашкевіч, які назваў яе самай жахлівай калоніяй у Беларусі. Ці сапраўды гэта так?***

— Па маіх назіраннях і распаведах старых арыштантаў, у Горкі звозяць тых, хто асуджаны «па бесу» — палітычных ды тых, чые судовыя справы былі сфабрыкаваныя. Там людзей маральна забіваюць, ствараюцца такія ўмовы, калі цалкам душыцца індывідуальная воля. Не, такога, каб біць альбо пазбаўляць ежы — гэтага няма. Але вакол кожнага чалавека, які хоць крышачку незалежны, хоць крышачку спрабуе адстойваць свае правы, ствараецца такая атмасфера, калі крок налева, крок направа — і ён адразу едзе ў карцар. Вакол яго кучкуюцца натоўпы стукачоў, якія дакладаюць пра ўсё. Гэта першая зона, якую я бачыў, дзе караюць не толькі за ўжо здзейсненае парушэнне, але ўжо за тое, якое толькі рыхтуецца. Было такое, калі чалавек, што пад наглядам адміністрацыі, падымаўся ў зону з ШЫЗА, і да яго падыходзіў перамовіць звычайны зэк — дык той, хто падышоў, адразу сам ехаў у карцар на дзесяць сутак. Толькі за тое, што пагутарыў.

Са мной практычна ніхто з вязняў не хацеў кантактаваць, бо ўсе ведалі, што калі са мною пагутарыш альбо пап'еш гарбаты — адразу сам паедзеш у ШЫЗА. Але была і такая гісторыя — пасля карцара са мной літаральна пару дзён пашпацыраваў адзін хлопец. Спачатку ён двойчы атрымаў па дзесяць сутак карцару, а пасля паехаў у ПКТ (памяшканне крытага тыпу — аўт.). Вось гэта горацкая калонія.

***— Як зэкі выжываюць у такіх жорсткіх умовах?***

— Той, хто змагаецца за свае правы, у самой зоне жыве нядоўга. Ён альбо едзе «пад крышу» — у ПКТ, альбо ў крытую турму, альбо яго раскручваюць па 411 артыкуле (парушэнне рэжыму адбыцця пакарання — аўт.). Што да мяне, у любых умовах мне дапамагала выжываць разуменне сваёй рацыі і велізэзная падтрымка з волі. Радаснымі былі тыя дні, калі прыходзіла незалежная прэса, розныя часопісы. Сядзіш ва ўсёй гэтай шэрасці і аднастайнасці, табе прыходзіць часопіс кшталту «National Geographic», разгортваеш яго — а там гэтыя каляровыя карцінкі пра свет, пра жыццё, пра ўсё тое, чаго ты пазбаўлены!.. Думкамі пераносішся туды, вандруеш па іншых краінах — гэта дапамагае адцягнуцца ад турэмнай руціны.

### «У калоніі — жыццё робата»

***— Твой паплечнік Ігар Аліневіч распавёў, што ў карцары яму было прасцей, чым у калоніі. А ў цябе якія ўражанні?***

— У гэтым ёсць вялікая доля ісціны. Я не вельмі шмат быў у калоніі, з усяго тэрміну я толькі год быў у зоне, а чатыры гады я прасядзеў у камерай сістэме. Але я згодны, калонія — гэта мітусня. Усё падпарадкавана дэталёваму рэжыму, трэба выконваць механізаваныя дзеянні — такое жыццё робата. Ты не можаш застацца са сваімі думкамі, не можаш засяродзіцца, падумаць пра важнае для цябе. У калоніі вакол цябе заўжды нейкія правакатары, ты вымушаны глядзець на твары, які б ты, можа, і не хацеў бачыць. І калі гэта цягнецца месяц за месяцам, год за годам — тады ШЫЗА, нягледзячы на вельмі дрэнныя бытавыя ўмовы, падаецца збаўленнем. Ты застаешся сам-насам з сабою, маральна ачышчаешся ад таго шалупіння, што на цябе наліпла ў калоніі.

Калі казаць пра ПКТ — удасканаленае ШЫЗА, — там больш вольнага часу, чым у калоніі. У адрозненні ад карцара, туды можна праносіць кнігі, весці перапіску, атрымліваць газеты. Калі я там сядзеў, кожную вольную хвіліну стараўся праводзіць з карысцю — займаўся спортам, ёгай, падцягнуў англійскую і беларускую, пачаў вывучаць арабскую мову. Стараўся меней валяцца, меней спаць — разумеў, што калі я выйду, у мяне не будзе столькі вольнага часу для навучання. Яно так і сталася.

***— Чаму цябе навучыла турма?***

— Першае, галоўнае, правіла, якому цябе вучыць турма, — гэта ўменне адказваць за свае ўчынкі. Турма — гэта сціснутая прастора, дзе прычынна-следчыя сувязі адбываюцца хутчэй, чым на волі. Напрыклад, калі ты ўчыніў нешта дурное альбо подлае — гэта вельмі хутка вернецца, калі зрабіў нешта добрае — таксама вяртаецца імгненна. У турме хутка вучышся несці адказнасць за кожнае слова і ўчынак. Па-другое, я навучыўся нашмат больш цаніць сяброў, блізкіх людзей, цаніць добрыя стасункі між людзьмі. Там я наглядзеўся ўсялякага, пабачыў шмат бруду, негатыву, поўнай адсутнасці ў многіх людзей паняткаў «добра» і «зло». У турме я яшчэ глыбей асэнсаваў, што стасункі між людзьмі павінны грунтавацца на любові да бліжніх і на братэрстве — без гэтага не будзе ані душэўнага спакою, ані нейкіх змен у грамадстве.

***— Ці магчымыя ў гэтым брудзе праявы звычайных чалавечых стасункаў — сяброўства, узаемадапамогі?***

— Безумоўна, я сустракаў гэта, і неаднойчы. Бачыў чыстае шчырае сяброўства, самаахвяраванне адных людзей дзеля іншых. Гэта, канешне, здараецца рэдка, з'яўляецца хутчэй выключэннем з правілаў, і тым больш яскрава заўважна на фоне ўсяго гэтага негатыву. Гэта праяўляецца ў той жа самай турэмнай традыцыі «сустрэчы», калі вязні сустракаюць тых, хто выходзіць з ШЫЗА, накрытым сталом (звычайна гэта гарбата з шакаладам) і даюць рэчы першай неабходнасці. Я заўважаў, як звычайныя хлопцы-крымінальнікі, даведаўшыся, што я быў у карцары, падтрымлівалі мяне, выходзячы не толькі з турэмнага этыкету, але і таму, што яны бачылі, што міліцыянты прэсавалі мяне «па бесу» — без аніякай падставы. Я бачыў шчырае спачуванне на свой адрас. Быў выпадак, калі адзін хлопец дапамог мне «выгнаць» інфармацыю на волю. Аператыўнікі пра гэта даведаліся, і таму хлопцу далі сем сутак ШЫЗА. Мне было прыемна бачыць, што пасля гэтага ён не толькі на мяне не злаваўся, але і працягнуў сябраваць як ні ў чым не бывала. Такая вось прынцыповасць, гатоўнасць да самаахвяравання — гэта ўражвае ў турме.

> **Я навучыўся нашмат больш цаніць сяброў, блізкіх людзей, цаніць добрыя стасункі. Там я наглядзеўся ўсялякага, пабачыў шмат бруду...**

### «Асаблівай павагі да палітычных у турме я не заўважыў»

***— Колькі часу табе спатрэбілася, каб адаптавацца да статусу «зэка»?***

— Месяц — і я заўважаю, што інтуітыўна хаваю забароненыя рэчы ад наглядчыкаў; пачынаю, так бы мовіць, «ботаць па фене» са сваімі сукамернікамі; вучуся ілгаць начальнікам, каб не здабыць непрыемнасцяў. Зэкаўскія звычкі выпрацоўваюцца вельмі хутка.

***— Ці выдзялялі вязні тваю палітычнасць?***

— Многія прасілі напісаць судовыя скаргі — па меры магчымасці дапамагаў. Часта падыходзілі абмеркаваць падзеі ў Беларусі і ў свеце. Пыталіся, што будзе на выбарах, што будзе з Амерыкай і што мяркую пра Пуціна. Але чэмпіёнам было пытанне: «Ці доўга наш вусаты пратрымаецца?». Чамусьці ўсе думалі, што я гэта ведаю. Нацкаваныя адміністрацыяй зэкі спрабавалі ціснуць, а многія, і наадварот, шакаладкай маглі пачаставаць. Аднак павагі да «палітычных», якая была раней, я не заўважыў. Хутчэй, ёсць насцярожанасць змешаная з цікаўнасцю.

***— Ці думаў, што давядзецца адсядзець пяць гадоў?***

— Калі шчыра, напачатку былі ілюзіі, што вось Еўропа нас выцягне, што не будуць даваць вялікіх тэрмінаў. Ну хіба можна даваць чатыры з паловай гады за шыбы, што я нібыта разбіў і нібыта здымаў гэта на відэа? Думаў, што абыдзецца хіміяй ці нейкімі меншымі тэрмінамі. Але калі я паглядзеў, як на судзе сябе паводзяць суддзя і пракурор, зразумеў, што гэта адназначна замова спецслужбаў. Цікава, што яшчэ на стадыі следства аператыўнік з КДБ выказаў меркаванне, што я атрымаю чатыры з паловай гады, а «экстрэмал» Аліневіч, як ён яго назваў, — восем гадоў. Вось так яшчэ да пачатку суду ён нам прадказаў тэрміны, і гэтыя прадказанні збыліся. Канешне, ні пра якую незалежную сістэму гаворкі быць не можа — суддзя і пракурор проста ігралі ролі ў судовым спектаклі.

Я маю сярэднюю спецыяльную юрыдычную адукацыю, таму ўсё гэта назіраць было асабліва прыкра. Ты вывучаеш усе гэтыя законы і працэсы, табе сур'ёзна тлумачаць, наколькі права важна для функцыянавання дзяржавы і развіцця грамадства, а пасля ты сядзіш у судовай клетцы і думаеш, а навошта ты траціў на гэта ўсё час, калі ў нашай краіне гэта зусім не працуе. Прыкра было, што ўсе каласальныя высілкі адваката і маіх бацькоў не прынеслі ў судзе ніякага плёну.

***— Падчас следства на цябе далі паказанні некаторыя з паплечнікаў па анархічным руху. Ці выходзілі яны на сувязь па вызваленні?***

— Не, і кантактаваць з імі, я ўпэўнены, ніхто з нас не будзе. Са здраднікамі і хлусамі размовы быць не можа. Жыццё іх пакарае.



# Гід у Грэцыі: «Мару зрабіць групавую экскурсію па-беларуску!»

Валярына КУСТАВА

**Як крызіс адаб'ецца на беларускіх турыстах, што нязменна кіруюць у Грэцыю, каб убачыць антычныя Афіны і выспу багоў Родас, адпачыць на цудоўных пляжах і палепшыць шчытападобныя залозы на танных морапрадуктах? Каб пагутарыць пра славутасці і рызыкі знаходжання ў сучаснай Эладзе, мы сустрэліся з беларускім экскурсаводам у Грэцыі Змітром Паграбенкам.**

***— У чым спецыфіка вашай экскурсійнай дзейнасці?***

— Я праводжу туры рэлігійнай тэматыкі ў асноўным на Родасе і выспах Дадэканэса: Сімі, Патмос і г.д. Асноўная экскурсія на Родасе: «Праваслаўны Родас». Ёсць таксама першы тур па цэрквах сярэднявечнага горада «Хрысціянскі Родас — скрыжаванне цывілізацый». Ёсць — па выспе Сімі: «Сто Манастыроў Сімі». Ну і, зразумела, «Патмос — выспа Апакаліпсіса»!

***— Чаму прыехалі менавіта на Родас?***

— Прыехаў на Родас з мацерыка па запрашэнні найбуйнейшага тады тур-аператара Родаса спецыяльна, каб стварыць першы тэматычны рэлігійны тур на выспе для рускамоўных турыстаў.

***— Чаму вырашылі застацца?***

— Спадабалася! Я папросту закахаўся ў Дадэканэс!

***— Як часта прыязджаеце ў Беларусь і з якой нагоды?***

— Разы два на год. Наведаць родных і сяброў. На Плошчу ў часе выбараў прыязджаў...

***— Ці шмат беларусаў ведаеце на Родасе? У Грэцыі? Ці ёсць нейкая іх супольнасць?***

— На Родасе ёсць колькі дзяўчын, якія тут выйшлі замуж, але свядомых беларусаў на ўсю Грэцыю асабіста ведаю ўсяго некалькі чалавек. Адзін з іх, дарэчы, таксама выпускнік Жыровіцкай семінарыі, у Салоніках навучаецца, як і я калісьці!

***— На якіх мовах праводзіце свае экскурсіі?***

— Пакуль толькі на рускай, але спадзяюся, што прыйдзе час, калі будзе каму па-беларуску апавядаць! Калі б быў попыт — я б з радасцю вёў і па-беларуску.

***— Калі летась мяне абрабавалі на Родасе ў аэрапорце, і я засталася без грошай і дакументаў, вы мяне не ведалі на той момант, але па адным тэлефанаванні прыехалі з іншай часткі Родаса і адвезлі ды ўладкавалі ў манастыр, дзе я змагла перабыць патрэбны час, дзе далі ежу і грошы. Што вамі кіравала?***

— А як інакш: калі чалавек просіць дапамогі і маеш магчымасць дапамагчы хоць чымсьці — як і навошта адмаўляцца!?! Ну і тым больш — дапамагчы землякам! Тым больш сімпатычнай дзяўчыне!

***— Ці характэрна салідарнасць беларусам, якіх ведаеш па-за Беларуссю, тут, у Грэцыі?***

— Беларускамоўным (!) беларусам у замежжы — характэрна.



Што да іншых — залежыць ад канкрэтнага чалавека.

***— Чым вашы экскурсіі адрозніваюцца ад тых, што прапануюць іншыя агенцыі?***

— Значна аптымізаванай праграмай і якасцю падачы матэрыялу, дзякуючы шматгадоваму вопыту на Родасе. Я не аматар сябе хваліць, але праўда ў тым, што канкурэнтаў мне ў гэтым экскурсійным кірунку няма. Акрамя таго, што іншыя экскурсаводы, якія цяпер вядуць гэтую праграму, вучыліся ў мяне, ці ў тых, хто вучыўся ў мяне! (Усміхаецца.) І большасць проста паўтараюць тое, што калісьці чулі ад мяне, — нават з маімі старымі памылкамі.

***— Ці плануеце вярнуцца ў Беларусь?***

— Пакуль што канкрэтных планаў на гэты конт у мяне няма.

***— Ці адчувальны крызіс у Грэцыі для яе жыхароў — вас і вашых сяброў ды калег?***

— У нас на выспах, дзякуючы развітаму турызму, крызіс асабліва не адчуваецца.

***— Які, на вашу думку, у дадзенай сітуацыі крызісу найлепшы шлях для Грэцыі?***

— Апошнія падзеі з незразумелым рэферэндумам і яго наступствамі шмат каго прымусілі задумацца, а кагосьці — расчаравалі. Я асабіста тут думаю трохі шырэй. На мой погляд, цяпер надыходзіць час, калі нарматыўная т. зв. «прадстаўнічая» дэмакратыя губляе свой сэнс. З існуючымі тэхналогіямі мы можам перайсці да першапачатковай, якая была яшчэ ў старажытнай Грэцыі ў тых ці іншых формах, «наўпроставай» дэмакратыі, калі кожны грамадзянін сам сваім голасам непасрэдна вырашае лёс сваёй дзяржавы. Нешта падобнае да таго паспрабавалі зрабіць у Ісландыі пасля іх крызісу, калі грамадзяне самі, праз інтэрнэт, стварылі сваю Канстытуцыю. Грэцыя — радзіма дэмакратыі, і я думаю, што яе грамадзянам прыйшоў час пра гэта прыгадаць.

> **Замаўляючы менавіта ў мяне — беларусы эканомяць грошы без эканоміі на якасці. Беларускамоўным — абяцаю зніжкі**

***— Ці сапраўды цяпер сюды ехаць небяспечна? Што вы параіце турыстам?***

— Звесткі пра небяспечнасць паездак у Грэцыю значна перабольшаныя! Усё (банкі, крамы, гатэлі, пляжы, турфірмы і г.д.) працуе ў штатным рэжыме. Дарэчы, у жніўні ў нас на Родасе амаль што няма вольных месцаў у гатэлях, а арэндаваць машыну можна толькі на наступны тыдзень. Так што, як бачыце, няшмат хто верыць у небяспечнасць адпачынку ў Грэцыі. З парадаў толькі адна: пакінуць усе свае праблемы — і ехаць да нас адпачываць!

***— Як вас знайсці беларускім турыстам, што хочуць пачуць тваю экскурсію? Ці ведзяце індывідуальныя ці толькі групавыя экскурсіі? У чым спецыфіка, адметнасць і выгаднасць, калі замаўляць экскурсію менавіта ў вас?***

— Знайсці мяне прасцей за ўсё у фэйсбуку. Зразумела, вяду і групавыя, і індывідуальныя. Мару правесці групавую экскурсію на Родасе па-беларуску! Замаўляючы менавіта ў мяне — беларусы эканомяць грошы без эканоміі на якасці. Беларускамоўным — абяцаю зніжкі.

***— У які час найлепей ехаць на Родас? Калі пачынаецца і заканчваецца сезон? Дзе лепей сяліцца? Што варта пабачыць?***

— Сезон на Родасе — самы доўгі ў Грэцыі: ад ранняга красавіка да канца кастрычніка (а многія мясцовыя жыхары гэтым часам звычайна толькі пачынаюць купальны сезон!). Самым лепшым перыядам для адпачынку на Родасе з'яўляецца ўвесь сезон цалкам, бо нават у самыя спякотныя — ліпень ды жнівень — дзякуючы пастаянным вятрам, спёка ўспрымаецца нармальна, асабліва на ўзбярэжжы. А вот наконт таго, што пабачыць, — гэта можа быць тэмай яшчэ аднаго інтэрв'ю, бо нягледзячы на невялікія памеры вострава, паглядзець тут сапраўды ёсць што! Зразумела, асноўныя атракцыямі ёсць сярэднявечны горад-фартэцыя Родас ды старажытны Ліндас. Ну і, канешне ж, месца прыгодаў нашай знакамітай паэткі і журналісткі — манастыр Цамбіка... Месца, дзе на Родасе Жыве Беларусь!

**Даведка:**

Зміцер Паграбенка. Скончыў Ліцэй БДУ (ПМ і інфарматыка), пасля — Мінскую духоўную семінарыю, у 1999 годзе атрымаў стыпендыю ад МЗС Грэцыі на паслядыпломнае навучанне ва Універсітэце імя Арыстоцеля ў Салоніках на факультэце тэалогіі, аспірантуру якога скончыў па спецыяльнасці «Этыка і сацыялогія рэлігіі». Працаваў у вядучых турыстычных кампаніях Грэцыі з 2000-га, на Родасе — з 2009 года.



# Як жаба кінула свінню

**Міжнародная феміністычная супольнасць апалчылася на жабку Керміта — персанажа славутага «Muppet Show» — за тое, што ён здрадзіў старой сяброўцы Міс Пігі.**





На першы погляд, справа вартая таго, каб выклікаць санітараў з Навінак. Што жудаснага ў тым, што стваральнікі лялечнага тэлевізійнага шоў прыдумалі галоўнаму персанажу новую сяброўку, якая ў дадатак выглядае маладзей за папярэднюю? Аднак так могуць казаць людзі, адарваныя ад заходняй культурнай традыцыі. Каб зразумець гэты культуралагічны феномен, трэба нагадаць, што такое «Muppet Show» і якое яго месца ў гісторыі.

«Muppet Show» — гэта не проста музычная лялечная праграма, якая выходзіла з 1976 па 1981 год і зараз вяртаецца ў эфір на амерыканскім канале ABC. У праграме, якая паказвае ўнутранае жыццё музычнага тэатра, у свой час удзельнічалі легенды амерыканскай і еўрапейскай культуры, сярод якіх Шарль Азнавур, Сільвестр Сталонэ, Піцер Усцінаў, Твігі, Стыў Марцін, Рудольф Нурыеў, Элтан Джон і іншыя. Індыкатар статусу праграмы — безліч узнагарод, якія яна паспела сабраць за сваё існаванне (сярод іх прэміі Брытанскай тэлевізійнай акадэміі і прэміі Emmi). Акрамя таго, на базе ідэі «Muppet Show» было знята шэсць асобных фільмаў і шмат тэлефільмаў. Некаторыя героі ператварыліся ў вядучых сваіх асабістых шоў, аўтараў кніг і г.д.

Важны чыннік поспеху праграмы, якую, дарэчы, прыдумаў легендарны лялечнік Джым Хэнсан (Jim Henson), — вельмі добра распрацаваныя і прапісаныя вобразы лялек-актораў тэатру. У іх мы можам без цяжкасці пазнаць людскія тыпы. Палітру ўдзельнікаў шоў нельга ўявіць і без Міс Пігі. Міс Пігі — гэта гламурная свінка з непрадказальным характарам, якая прэтэндуе на званне вядучай актрысы тэатра. На працягу ўсяго цыкла Пігі з пераменным поспехам спрабуе дамагчыся ўзаемнасці ад галоўнай любові ўсяго яе жыцця, кіраўніка тэатрам жабкі Керміта.

Вобраз эксцэнтрычнай свінкі настолькі прыйшоўся даспадобы гледачам, што пасля заканчэння шоў Пігі чакаў беспрэцэдэнтны поспех. Пігі паспела стаць вядучай дзвюх праграмаў на тэлебачанні. Акрамя таго ад яе імя быў запісаны музычны альбом і выдадзена кніга — «Уводзіны ў жыццё ад Міс Пігі» (Miss Piggy's Guide to Life), якая стала бестселерам.

**«Людзі мяняюцца… свінні і жабы таксама, мы былі разам вельмі доўга», — сказаў Керміт на прэс-канферэнцыі**

Ружовая пыса Пігі з'яўлялася на вокладках шматлікіх часопісаў, у тым ліку такіх вядомых, як «Cosmopolitan», «Time», «Bazaar», «People», «Life» і г.д. У 1996 годзе часопіс «TV Guide» паставіў Міс Пігі на 23-е месца ў спісе 50 найвялікшых зорак тэлебачання ўсіх часоў.

Аднак аўтарам новай версіі «Muppet Show» свіння чамусьці не спадабалася. Хаця, хутчэй за ўсё, яны вырашылі ахвяраваць сяброўкай Керміта, каб прыцягнуць да шоў дадатковы інтарэс. Так ці інакш, перад выхадам новага варыянту шоў на акаўнце ў Twitter, што афіцыйна належыць Керміту, з'явілася інфармацыя, што з-за новага раману ён вырашыў разлучыцца з Міс Пігі. «Людзі мяняюцца... свінні і жабы таксама, мы былі разам вельмі доўга, і гэта вельмі асабістае», — сказаў Керміт на прэс-канферэнцыі 4 жніўня. Такім чынам Керміт канчаткова заявіў пра сыход ад Пігі.

Прэса і публіка дастаткова жыва рэагавалі на навіны пра інтымнае жыццё Керміта. Можаце смяяцца, аднак шмат хто ўспрыняў навіну пра разрыў Керміта і Пігі як асабістую драму. Былі нават петыцыі да студыі аднавіць адносіны куміраў. У сваю чаргу, культуролагі тлумачылі такія незвычайныя ўчынкі тым, што раман Керміта і Пігі быў самы доўгім раманам паміж поп-зоркамі.

Але сапраўдны выбух у медыя адбыўся пасля з'яўлення яго новай сяброўкі на экране. Яе завуць Дэніз. Дэніз выглядае больш маладой і падцягнутай. Яна таксама лепш арыентуецца ў цяперашняй моладзевай модзе, актыўна прысутнічае ў розных сацыяльных сетках.

Аднак такі характар не спадабаўся феміністкам. Іх ацэнкі выбару Керміта абсалютна адмоўныя. Па-першае, ім не падабаецца ўжо тое, што жабка падпарадкавалася стэрэатыпам пра жаночае харавство, якое навязвае ўстаноўку, што прыгажосць — гэта абавязкова бландзінка з вытанчанай фігурай.



«Мы не для таго ўвесь час змагаліся за тое, каб жанчына не выглядала як лялька Барбі, каб нам падсунулі Дэніз», — абураюцца феміністкі.

Другі момант незадаволення тычыцца ўзросту Дэніз, якая выглядае значна маладзей за Керміта. Гэта, на думку некаторых, ужо падобна на вычварэнства. Тут некаторыя бачаць нейкую латэнтную рэкламу прастытуцыі.

Паралельна на феміністычных сайтах быў праведзены больш глыбокі аналіз сутнасці характару Міс Пігі, каб у выніку зрабіць выснову — яна і ёсць ікона фемінізму. Сапраўды, калі прыглядзецца, дык перад намі самастойная жанчына, якая сама за кошт цяжкай працы зрабіла кар'еру без усякай вонкавай пратэкцыі. Як тут не згадаць, што не так даўно наша гераіня паспела таксама выдаць кнігу, якая называецца «Я свіння-феміністка».

Чым закончыцца незвычайная вайна прагрэсіўнай грамадскасці за вяртанне Міс Пігі на падмосткі «Muppet Show» і ў абдымкі Керміта, можна толькі здагадвацца. Аднак з улікам колькасці аматараў Пігі ў свеце і шуму ў прэсе ўсё ідзе да таго, што сцэнарыстам давядзецца прыдумляць сцэны аднаўлення раману былых каханкаў. Праўда, некаторыя феміністкі заклікаюць Міс Пігі не вяртацца да жабкі. «Ты проста лепшая за яго», — пішуць яны ў сваіх пастах.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

На пазіцыі Лукашэнкі могуць паўплываць знешнія гульцы. Нечакана Масква арганізавала ціск на Лукашэнку, які пачаў падлашчвацца да Захаду, з мэтай размясціць у Бабруйску авіябазу РФ. Да выбараў гэтае пытанне магло б пачакаць. Але цяпер Крэмль лабіруе гэту тэму, што бударажыць беларусаў. Многія лічаць, што калі Лукашэнка пусціць базу, то пра незалежнасць краіны можна будзе забыцца. Ёсць нават асцярогі, што там, без ведама афіцыйнага Мінска, расіяне могуць размясціць ядзерныя ракеты. І тут два варыянты: можа адбыцца як кансалідацыя грамадства вакол Лукашэнкі, так і яго адрыванне як лідара, які здаў інтарэсы Беларусі.

**«Сегодня» (Украіна)**

Усе краіны і іх грамадзяне павінны задацца пытаннем: якую дзяржаву і якую будучыню яны хочуць бачыць для сваіх дзяцей. Нават саюзнікі Расіі сёння час ад часу вымушаныя адзначаць, што дзяржаўныя інтарэсы іх краіны важней, чым доказ вечнай адданасці Расіі, якая асабліва і не цэніцца. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, напрыклад, некалькі тыдняў таму зноў разгараваўся, адзначыўшы, што «сапраўдны твар Расіі — прагны і абсалютна не саюзніцкі». Дарэчы, нядаўна Лукашэнка «з гуманных меркаванняў» абвясціў амністыю і вызваліў з турмы шэсць апазіцыйных дзеячаў, у тым ліку і свайго канкурэнта на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года Мікалая Статкевіча. Пасля гэтага кроку Захад ужо кажа пра паляпшэнне адносін з Беларуссю.

**«Аравот» (Арменія)**

На гэты раз перамога Лукашэнкі, нават калі яе і падфарбаваць, хутчэй за ўсё, будзе больш ці менш рэальнай. А чаго яшчэ чакаць, калі 54% беларусаў упэўнены, што краіна рухаецца ў правільным кірунку, а на паляпшэнне жыцця пасля змены ўлады спадзяецца толькі чвэрць насельніцтва. Акрамя таго, беларуская грамадзяне на фоне цяперашняга канфлікту ва Украіне больш за ўсё цэняць стабільнасць, у пазітыўным ключы трактуюць залежнасць ад Расіі і не жадаюць нічога падобнага на Майдан. Вялікіх надзей не трэба звязваць і з моладдзю: хоць ва ўзроставай катэгорыі 18–29 гадоў апазіцыя папулярней за цяперашнюю ўладу. Падзеі ва Украіне выклікалі не незадаволенасць уладамі і жаданне пратэставаць, а, хутчэй, пасіўнасць і заклапочанасць грамадзян асабістымі справамі.

**«Delfi» (Літва)**

Эксперты бачаць у цяперашнім візіце ў Кітай і падпісанні пампезнай дырэктывы аб супрацоўніцтве з Пекінам больш палітыкі і перадвыбарчага піяру Аляксандра Лукашэнкі, чым рэальных эканамічных перспектыў, — выбары прэзідэнта Беларусі прызначаны на 11 кастрычніка. Лукашэнка, якому хоць і паабяцалі адкрыць «акно ў Еўропу», але пакуль не выканалі, быў рады з'явіцца на публіцы сярод сваіх калегаў з іншых, у тым ліку і некаторых еўрапейскіх, краін.

**«Независимая газета» (Расія)**

Калі паглядзець хроніку апошніх двух гадоў, то мы бачым працэсы нармалізацыі адносін Беларусі і Захаду, працэс глыбокай інтэграцыі Беларусі ў кітайскі праект Эканамічнага поясу Новага шаўковага шляху, незалежную пазіцыю Мінска па ўкраінскім крызісе. Усё гэта з'яўляецца натуральным адказам Беларусі на эканамічны калапс у Расіі і неабходнасць шукаць новыя рынкі і новых партнёраў для забеспячэння далейшага развіцця эканомікі. Аднак у расійскіх СМІ і ў свядомасці расійскіх элітных груп усё гэта выглядае і ўяўляецца як «паварот на Захад» і «здрада саюзніка». Дэстабілізацыя Беларусі, змена рэжыму ў Мінску як адказ на «сыход Беларусі на Захад» з'яўляецца цалкам легітымнымі крокамі ў тэрмінах рыторыкі ваеннага часу, якая навязваецца грамадскай думцы ў Расіі... У Мінску сітуацыю разумеюць і актыўна рыхтуюцца да процідзеяння любым, без якіх-небудзь выключэнняў, сцэнарам дэстабілізацыі сітуацыі ў Беларусі.

**politica-ua.com (Украіна)**

Мікола ДЗЯЦЮК

**Наш журналіст Зміцер Галко зараз асеў у «сектары «М» — у Марыупалі. Ён адзначае: выглядае на тое, што ўлады Украіны пайшлі на замарожванне канфлікту.**





Зміцер Галко са старэйшым сынам Андрэем на ўскрайку Марыупаля

# Украіна: пачатак контррэвалюцыі?

### Выпадковы «сектар «М»

— Калі я паехаў у лютым ва Украіну, думаў, што еду самае большае на два тыдні. Марыупаля наогул не было ў спісе. Але, як той казаў, хочаш рассмяшыць Бога — раскажы яму пра свае планы. Я паехаў разам з сынам, які патрабаваў пэўнай дапамогі, і адзін добры чалавек, знаёмы святар, які падахвоціўся дапамагчы, наўзамен папрасіў з'ездзіць у Марыупаль. Тут мяне меліся сустрэць і ўладкаваць, але нешта пайшло не так, не сустрэлі і не ўладкавалі, прытулак спачатку давялося шукаць самому. Гэтая дробязь, а яшчэ і подых вайны ў патыліцу... Ведаеце, такая атмасфера, калі здаецца, што заўтра ўжо ўсё можа скончыцца, магчыма ўсё што заўгодна, спрычыніліся да зігзагу ў маім асабістым жыцці. Праз які я і затрымаўся тут.

***— Мабыць, вайна спрычыняецца і не да такіх пераменаў у лёсе?***

— Натуральна. Я тут пазнаёміўся з сям'ёй бежанцаў — маці адзінаццаці дзяцей, восем сыноў і трое дачок у яе, унукі. Яны з Краснагораўкі, гэта Мар'інскі раён, непадалёк ад Данецка, і да вайны далей за Данецк нікалі не бывалі. Цяпер іх раскідала па ўсім свеце. Адназа з сыноў цётка паклікала ў Казахстан, напрыклад. У яго бацька быў казах, які яго кінуў малым, потым забіў сваю сужыцельку, урэшце і сам памёр, дык той хлопец застаўся адзіным спадчыннікам у сям'і мужчынскага полу. Але да вайны пра яго не згадвалі. Цяпер жа, гаворыць, яму там дом далі і машыну, тое, чаго ў яго ніколі раней не было.

Іншы сын нелегальным чынам трапіў у Брытанію, працуе цяпер недзе ў Лондане на кававай фабрыцы. А кантору, якая яму ў крэдыт (што само па сабе вельмі дзіўна) рабіла дакументы, накрылі адпаведныя органы. Дык ён ужо зараз не мусіць адпрацоўваць тыя дакументы, можа сям'і дапамагаць, чым і займаецца.

Двое малых, унукі той жанчыны, галавы вялікага сямейства, засталіся адныя, бо іхны бацька ваюе за ДНР, а маці «блытаецца недзе з украінскімі вайскоўцамі». Пра гэтую сям'ю можна было б сагу напісаць. І не толькі пра яе адну.

### Бежанцы — за шчасце

***— Наколькі востра стаіць праблема перасяленцаў у Марыупалі?***

— Я размаўляў з прадстаўніцай гарадской адміністрацыі, яны не столькі бачаць праблему ў наплыве бежанцаў, колькі радыя, што пасля ўцёкаў многіх марыупальцаў насельніцтва гораду аднавілася за кошт перасяленцаў з акупаваных тэрыторый. Значыць, вялікіх праблем гораду яны не прынеслі.

«Праблемныя» перасяленцы ёсць, я быў у адным інтэрнаце, дзе ўзнік сур'ёзны канфлікт паміж сацыяльнай службай і перасяленцамі. Інтэрнат функцыянуе ўжо год, хаця прагрquestа была разлічаная ўсяго на некалькі месяцаў. Агулам праз яго прайшло каля паўтысячы перасяленцаў, большасць уладкавалася. Але дзясяткі тры чалавек ані працы не знайшлі, ані жыллё не знялі сабе, і не хочуць выязджаць, бо, кажуць, няма куды і няма як. Сацыяльная ж служба лічыць, што ім проста зручна так жыць, калі плаціць ні за што не трэба, а матывацыі паляпшаць жыццёвыя ўмовы няма: яны, маўляў, звыклі жыць у паганых умовах.

Там ёсць старыя людзі, інваліды, людзі з псіхічнымі адхіленнямі. Колькі маладзёнаў — выпускнікоў дзіцячых дамоў, хлопцы і дзяўчыны. Хлопцы паехалі падзарабіць у Крым, думалі туды дзяўчат сваіх перавезці. Ім нібыта абяцалі 20 тысяч рублёў у месяц, а на месцы заробак аказаўся ў пяць разоў меншы. З такім заробкам у Крыме не пражывеш, дзяўчат забраць не могуць. Вось тыя і сядзяць у інтэрнаце, чакаючы невядома чаго.

1 верасня меўся быць апошнім днём існавання інтэрнату, я туды прыязджаў паглядзець, ці не будуць людзей выкідаць на вуліцу. Аднак не, нават электрычнасць і ваду не адключылі.

Агулам цягам вайны ў горадзе было зарэгістравана каля 70 тысяч перасяленцаў. Калі з іх усяго колькі дзясяткаў аказаліся ў такім гаротным стане, паказчык не надта і вялікі.

Зрэшты, сацыяльны клопат пра сваіх грамадзян ніколі не быў моцным бокам украінскай дзяржавы, што загартавала ўкраінцаў за гады незалежнасці, змусіла іх разлічваць на свае сілы. Наогул, украінцаў ад нас, беларусаў, адрознівае большая ўчэпістасць і жылаватасць. Ну, не тое каб дзяржава зусім не дапамагала, але той дапамогі зайцу на закуску, як той казаў. Таму збольшага перасяленцы самі вырашаюць уласныя праблемы, як і астатнія ўкраінцы.

### Нябачны фронт

***— Марыупаль фактычна знаходзіцца на лініі фронту...***

— Першы раз мы пайшлі з старэйшым сынам на мора ў канцы мая, на Зялёны востраў, і акурат наступным днём там загінуў рыбак, наступіўшы на выбуховую прыладу. Недзе праз тыдзень на нашых вачах падарваўся катэр берагавой аховы.

А ўжо ў ліпені адна замежная журналістка, якая прыехала ў горад асвятляць вайну, сказала: «Марыупаль настолькі мірны, што я шакаваная». Месяц сапраўды выдаўся ціхім. Я ж у канцы чэрвеня прывёз сюды і малодшага сына. І нават ягоная маці, якая, зразумела, заўжды, з любой прычыны за яго з вельмі хвалюецца, тады супакоілася. Здавалася нават, што ў вайне магчымы хуткі канец.

Жнівень пахаваў гэтыя надзеі. Зноў пачаліся масіраваныя абстрэлы ваколіц Марыупаля. Яны істотна наблізіліся да горада. Звычайна я сплю як пшаніцу прадаўшы, нават у ваенных умовах, а тут грукатала так моцна, што я мог а чацвёртай раніцы падскочыць. Зарніцы было відаць, шыбы дрыжэлі, — поўнае ўражанне, што снарады падаюць ужо ў суседнім гародзе. Пілі заспакаяльнае, склеп трымалі адкрытым...

***— Абстрэлы — гэта падрыхтоўка да маштабнага наступлення?***

— Я не ваенны эксперт, але тыя, з кім я размаўляў і хто можа выступаць у такой якасці, — ад Яраслава Чапурнога, прэс-афіцэра «сектару «М», да Сяргея Чырына, кіраўніка «Правага сектара» ў Данецкай вобласці, — сцвярджаюць адваротнае. Узмацненне абстрэлаў яны лічаць спробамі шантажу, якія маюць на мэце атрыманне перавагі ў палітычных перамовах. У цэлым жа ўсё ідзе да замарожвання канфлікту, стварэння на часова акупаваных тэрыторыях непрызнанага анклаву накшталт Прыднястроўя.

Прычым Яраслаў Чапурны адкрытым тэкстам назваў гэта «аптымальным варыянтам». Бо ў выпадку спробы вызваліць акупаваныя тэрыторыі, Украіне давядзецца ўступіць у адкрытае супрацьстаянне з расійскай арміяй і ахвяраваць тысячамі, калі не дзясяткамі тысяч жыццяў.

Чапурны — кадравы ваенны, асоба афіцыйная, наўрад ці ён стаў бы агучваць пазіцыю, якая ідзе насуперак пазіцыі кіраўніцтва дзяржавы. У гэтую логіку добра ўпісваецца і тое, што адбываецца цяпер, з добраахвотніцкімі батальёнамі.

### Паўзучая контррэвалюцыя?

***— А што адбываецца з добраахвотнікамі?***

— Выглядае на тое, што іх ламаюць праз калена. Яны адведзены на другую і трэцюю лінію абароны, вельмі далёка ад фронту. Фармальна, гэта было зроблена ў адпаведнасці з законам, згодна з якім часткі Нацыянальнай гвардыі не павінны знаходзіцца на перадавой. Як было сказана, для «ўзмацнення абароны і павышэння кіравальнасці войскаў». У адрозненне ад апошняга, першае выклікае вялікія сумневы. Я гутарыў з рознымі мабілізаванымі салдатамі, якія стаяць цяпер вакол Марыупаля, і магу са шкадаваннем засведчыць вельмі нізкі ўзровень іхняй матывацыі. Нечакана для сябе я сутыкнуўся з нежаданнем удзельнічаць у «разборках палітыкаў і алігархаў», «незразумелай і нікому не патрэбнай вайне», «вайне, справакаванай Майданам» і нават «братазабойчай вайне». Хіба не існуе небяспекі, што ў выпадку наступлення салдаты, якія разважаюць падобным чынам, могуць проста пакінуць свае пазіцыі?

У неафіцыйнай размове камандзір аднаго з падраздзяленняў палка «Азоў» паведаміў, што існуе забарона для рэгулярных частак на зносіны з добраахвотніцкімі батальёнамі. Па яго словах, напрыклад, марпехі, якія стаяць у Шырокіна, адмовіліся прыняць сабраную «Азовам» разведвальную інфармацыю! Час ад часу, кажа ён, мэтанакіравана правакуюцца канфлікты паміж байцамі добраахвотніцкіх батальёнаў, справа ледзь не да перастрэлак даходзіць... Калі я наведваў батальён «Данбас», яны таксама казалі пра сваіх суседзяў — частку рэгулярных войскаў, што тыя з імі ніяк не кантактуюць.

Праз усё гэта нямала байцоў-добраахвотнікаў або пераводзяцца ў рэгулярнае войска, або проста сыходзяць у расчараванні.

***— Чаму гэтак? Бо мы ж звыклі, што добраахвотнікі і Нацгвардыя — самыя баяздольныя часткі?***

— Словы пра «павышэнне кіравальнасці войскаў», на мой погляд, — цалкам шчырая фармулёўка. Улічваючы ж тое, што добраахвотніцкія батальёны не былі заўважаныя ў слабасці, баязлівасці і дэзерцірстве, можна зрабіць выснову, што прыбіраюць тых, хто можа перашкодзіць якраз замарожванню канфлікту. У якім добраахвотнікі схільныя бачыць паразу і здачу тэрыторый — рэчы для іх непрымальныя.

Адначасова добраахвотнікаў баяцца як узброенай палітычнай сілы. Амаль за кожнай рэвалюцыяй ідзе перыяд контррэвалюцыі, падчас якога былыя рэвалюцыянеры калі не знішчаюцца, дык высылаюцца і нейтралізуюцца. А большасць добраахвотнікаў або непасрэдна бралі ўдзел у падзеях на Майдане, або проста па натуры сваёй рэвалюцыянеры. Таму ціск на іх і палітычны пераслед звязаны з трагічнымі падзеямі каля Вярхоўнай Рады, выглядаюць звёнамі аднаго ланцуга.

***— Іншымі словамі, сцэнар развіцця падзеяў ва Украіне негатыўны?***

— Контррэвалюцыя можа быць як рэваншам старой сістэмы, адкатам у мінулае, гэтак і неабходнай стабілізацыяй, пасля якой магчымы рух наперад. Ва Украіне ёсць прыкметы абодвух сцэнараў. Але хто прадкажа, які з іх возьме верх?

# Год пасля Мінску

**Украіна адзначыла гадавіну мінскіх дамоўленасцяў, якія былі закліканыя ўстанавіць мір на Данбасе. Праз год усё больш украінскіх палітолагаў называюць мінскі працэс актам капітуляцыі. Чаму? Пра падзеі ва Украіне журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з Пятром Радавым, выкладчыкам паліталогіі аднаго з кіеўскіх ВНУ.**



***— Год таму былі падпісаныя дамоўленасці, так званыя Мінск–1, якія ў сваю чаргу сталі фундаментам для пакета дамоваў Мінск–2, што быў падпісаны ў лютым. Ні ў верасні, ні ў лютым тыя дамовы актам капітуляцыі ніхто не называў. Чаму гэта здарылася цяпер?***

— Мінск–1 падпісваўся па слядах трагедыі пад Ілавайскам і прарыву сепаратыстаў да Марыупалю, а Мінск–2 — на фоне пагрозы стварэння катла пад Дэбальцава. У такой атмасферы тэрміновы мір лічыўся не самым кепскім варыянтам. Тым больш, што мэта дакументу — рэінтэграцыя Данбасу ў склад дзяржавы. У дадатак гэта падпісанне лабіраваў Захад, які ўспрымаўся як стоадсоткавы абаронца ўкраінскіх інтарэсаў. Толькі пасля таго, калі пачалася канкрэтная імплементацыя Мінску, стала зразумела, што не ўсё так проста. Так, высветлілася, што Мінск–2 — гэта па сутнасці канстытуцыйны канструкт. Некаторыя параграфы Канстытуцыі павінны быць перапісаныя, каб адпавядаць пунктам дамовы. У прыватнасці, нефармальныя рэспублікі для вяртання ў лона Украіны спачатку павінны атрымаць аўтаномію, або так званы спецстатус. Паступова грамадскасць стала схіляцца да думкі, што Мінск–2 — гэта план Масквы па паступоваму ўцягванню ЛНР і ДНР ва ўкраінскае палітычнае цела, што дазволіць ім уплываць на цэнтральныя рашэнні.

***— Змены ў Асноўны закон праштурхоўвае Блок Пятра Парашэнкі. Чым спікеры гэтага блоку тлумачаць неабходнасць надання спецстатусу Данбасу?***

— Па-першае, папраўкі падаюцца пад соусам шляхетнай справы — пашырэння самакіравання. Мінск–2 таксама прапануюць разглядаць як атрыманне Кіевам часовай перадышкі для рашаючага ўдару па сепаратыстах, падобнага таму, як гэта зрабілі харваты. Гутарка пра аперацыю «Маланка» 1995 года, калі харвацкая армія знішчала Сербскую Краіну, якой раней Заграб даў аўтаномныя правы. Кажуць, што выхад з фармату Мінску можа значыць канец для сусветнай антыпуцінскай кааліцыі, наяўнасць якой — умова для працягу рэжыму антырасійскіх санкцый. Аднак, у выніку чым больш парашэнкаўцы апрацоўваюць мазгі, тым вастрэй у абывацеля пачуццё таго, што Мінск–2 — гэта нейкі «развод». Страх, што табой маніпулююць, — не апошні фактар, які спрычыніўся да радыкалізму акцыі 31 жніўня. Тады пад сценамі Вярхоўнай Рады, дзе галасавалі за папраўкі, адбыўся сапраўдны бой. Вынікі нагадваюць паведамленні з перадавой — тры забітыя сілавікі ад кінутай гранаты і 140 параненых.

***— Праўладныя медыя перакладаюць усю адказнасць за «крывавы панядзелак 31 жніўня» на нацыяналістаў з аб'яднання «Свабода» — арганізатараў мітынгу каля будынку Рады. Наколькі «Свабода» віноватая ў падзеях?***

— «Свабодзе», якая губляе ў рэйтынгах з-за моцнай канкурэнцыі на правым флангу, сапраўды, была патрэбная карцінка, якая стварыла ёй імідж заўзятых праціўнікаў сепаратызму. Аднак не верыцца, што яе лідар Алег Цягнібок і яго атачэнне сапраўды рыхтавалі сцэнар захопу Рады. У такім бы выпадку лідар «Сабоды» не прыйшоў бы на акцыю са сваімі дзецьмі. Проста ніхто не пралічыў трэндаў, пра якія даўно казалі, — з фронту вяртаюцца часам псіхічна неўраўнаважаныя людзі, гатовыя да радыкальных антыўрадавых выступаў. Менавіта да такой катэгорыі належыць хлопец, якога падазраюць у кіданні гранаты 31 жніўня.

Для такіх, як гэты хлопец, прызнаць «Мінскія папраўкі» — значыць распісацца ў тым, што ўсё, што яны вытрымалі на фронце, смерць іх сяброў, — усё было бессэнсоўным. Па-другое, вайскоўцы традыцыйна спісваюць усе правалы на фронце на здраду ў штабе, ва ўрадзе і ў прэзідэнцкай адміністрацыі. Думаю, што мы яшчэ неаднаразова будзем чуць пра праявы такога «данецкага сіндрому».

***— 31 жніўня Рада ўсё ж падтрымала мінскія папраўкі. Аднак пры гэтым фракцыі трох партый, якія ўваходзяць у кааліцыю, галасавалі супраць. Радыкальная партыя Алега Ляшко ўвогуле пакінула кааліцыю. Неабходныя галасы былі здабытыя за кошт Апазіцыйнага блоку — фармавання, якое было створанае на базе Партыі рэгіёнаў. Ці не значыць урадавы крызіс пачатак вяртання былых рэгіяналаў ва ўладу?***

— Стварэнне апазіцыйнага блоку ў свой час праходзіла па куратарствам алігарха Сяргея Лёвачкіна, які адказваў у адміністрацыі Януковіча за кантакты з пасольствам ЗША, і нават лічыўся аўтарам студэнцкага Еўрамайдану. Таму Блок нельга лічыць іншапланетным целам у Постмайданаўскай Украіне. Сітуацыйна яго сябры могуць лёгка падтрымліваць праекты Парашэнкі, з якім яны ў дадатак маюць шмат бізнес-кантактаў. Скалацінь «шырку» (шырокую кааліцыю) на цяперашнім этапе будзе цяжка па цэламу шэрагу прычын. Аднак чаканы поспех Блоку на мясцовых выбарах у кастрычніку можа даць ім больш прасторы для манеўру.

***— Ці выконвае мінскія дамоўленасці Данецк і Луганск?***

— Не думаю. Напрыклад, яны не ўзгаднілі з Кіевам фармат мясцовых выбараў, якія пройдуць у кастрычніку. Па сутнасці, Мінскі пакт арыгінальна тлумачаць і выконваюць абодва бакі, не кажучы пра тое, што графік рэалізацыі яго параграфаў даўно пратэрмінаваны. Думаю, у еўрапейскіх сталіцах і ў Маскве ёсць дамоўленасць — часова замарозіць канфлікт, у тым ліку з-за унутраных праблемаў (падзенне нафты, крызіс імігрантаў). Таму на нейкія пабочныя эфекты — спадарожнікі мінскага працэсу, ніхто ўвагі не звяртае. Галоўнае, каб менш стралялі. Праблема ў тым, што на Данбасе, які непасрэдна быў арэнай баявых дзеянняў, любы мір на карысць аўтарытэту ўлады. Па той бок ліні фронту мінскі мір успрымаецца больш супярэчліва і часта разглядаецца праз прызму агульнага стаўлення да ўраду, чыя сацыяльна-эканамічная палітыка вельмі не папулярная. Праўда, як выйсці з мінскай парадыгмы, ніводны радыкал не ведае: краіна, і ў тым ліку армія, вельмі залежаць ад дапамогі з Захаду.

**Праблема ў тым, што на Данбасе любы мір на карысць аўтарытэту ўлады. Па той бок ліні фронту мінскі мір успрымаецца больш супярэчліва і часта разглядаецца праз прызму агульнага стаўлення да ўраду, чыя сацыяльна-эканамічная палітыка вельмі непапулярная**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Марын Ле Пэн



Старшыня «Нацыянальнага фронту» дабілася, каб яе бацька, 87-гадовы Жан-Мары, заснавальнік партыі, нарэшце пакінуў арганізацыю. Рашэнню Жан-Мары папярэднічала доўгая эпапея, калі дачка намагалася выключыць бацьку з партыі, а той не менш упарта адмаўляўся пакласці партбілет на стол. Прычынай сямейнага канфлікту, нагадаем, былі расісцкія і антысеміцкія выхадкі Жан-Мары, якія, на думку Марын, ствараюць партыі кепскі імідж напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2017 года. Так ці інакш, у выніку Жан-Мары махнуў на дачку рукой. 8 верасня стала вядома, што ён вырашыў стварыць новую партыю пад назвай «Bleu, Blanc, Rouge» — «Сіні, Белы, Чырвоны» (колеры французскага сцягу). Ужо вядома, што дэбютам новай партыі Ле Пэна стануць выбары ў невялікі муніцыпалітэт на поўдні краіны. Між тым, з'явіліся плёткі, што канфлікт паміж дачкой і бацькам — гэта інсцэніроўка з мэтай кансалідаваць напярэдадні кампаніі 2017 года вакол праектаў сямейства Ле Пэн увесь правы электарат.

### Нурсултан Назарбаеў



Цытаты прэзідэнта Казахстана ледзь не трапілі на старонкі казахстанскага пашпарта. Пачалося ўсё 2 верасня, калі дэпутат Рахмет Мукашаў паведаміў пра паступленне ад ураду на разгляд дэпутацкага корпусу законапраекта, які прадугледжвае «ўключэнне ў пашпарт грамадзяніна словаў першага прэзідэнта аб незалежнасці і прынясенне прысягі пры атрыманні грамадзянства». Гэта навіна літаральна ўскалыхнула краіну. Такіх забабонаў, як праслаўленне прэзідэнтаў у пашпартах, падаецца, не практыкавала ніводная краіна ў СНД, хаця ў некаторых краінах, напрыклад, у Вялікабрытаніі, цытаты каралевы прысутнічаюць на старонках пашпарту. У выніку ідэя праваліліся. Праз некалькі дзён спікер адмовіўся каментаваць сітуацыю з цытатамі Елбасы. Магчыма, адмовіцца ад ідэі прымусіла рэакцыя грамадства, якое літаральна высмеяла ініцыятыву. У казахскім інтэрнэце хапае пастоў накшталт: «Давай адразу ў пашпарце надрукуем усе кнігі Назарбаева. І калі няма чаго будзе рабіць у дарозе, выцягваеш пашпарт і чытаеш».

### Браніслаў Камароўскі



Былы прэзідэнт Польшчы зрабіў важны ўнёсак у падрыхтоўку правалу «Грамадзянскай платформы» на парламенцкіх выбарах у кастрычніку. 6 верасня ў Польшчы прайшоў рэферэндум, які быў ініцыяваны Камароўскім яшчэ ў чэрвені. Рэферэндум тычыўся шэрагу пытанняў, напрыклад, рэформы падатковай і выбарчай сістэмаў, сістэмы фінансавання партый. Аднак значнасць пытанняў у выніку нівеліраваў той факт, што закон аб рэферэндуме быў падпісаны паміж першым і другім турам прэзідэнцкіх выбараў. Іншым словамі, Камароўскі спрабаваў за кошт плебісцыту неяк набраць сабе пунктаў. Польскі электарат адмовіўся падтрымліваць такую брудную гульню. Спачатку Камароўскі прайграў прэзідэнцкія выбары, а праз паўгода цалкам праваліўся яго рэферэндум. Галасаваць прыйшлі менш за 8 працэнтаў палякаў. Пры гэтым усплыла цікавая дэталь — авантура Камароўскага з рэферэндумам каштавала польскаму бюджэту каля 100 мільёнаў злотых. Міма гэтага, натуральна, не маглі прайсці канкурэнты «Грамадзянскай платформы», якія патрабуюць ад Камароўскага кампенсаваць страты. Наўрад ці Браніслаў Камароўскі выкладзе такую вялікую суму, у тым ліку таму, што ўсё прайшло паводле закону. Аднак у выніку гэта гісторыя павялічыла разрыў паміж «Грамадзянскай платформай» і кансерватарамі, якія лідзіруюць у апытаннях наконт электаральных сімпатый. За кансерватараў зараз гатовыя прагаласаваць 35 працэнтаў палякаў, а за «Грамадзянскую платформу» — каля 25.


На савецка-польскай мяжы пад Стоўбцамі


Польскія паменікі ў Кучунах


Памежны пераход на «рыжскай мяжы»

# Паміж двух агнёў: адступіць, але не здацца

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У жніўні 1939-га ў Польшчы разумелі, што давядзецца ваяваць з нацысцкай Германіяй. Аднак ніхто ўпэўнена не мог сказаць, як сябе будзе паводзіць Савецкі Саюз.**

«Вясной 1939 года за Дзвіной на савецкім баку пачаўся рух. Ноччу было чутна, як рухаюцца танкі і грузавікі. Навіна пра падпісанне пакта аб ненападзе Рыбентропам і Молатавым пераканала майго бацьку, што вайна непазбежная», — апісвала ва ўспамінах той няпросты час адна з жыхарак мястэчка Дзісна.

Пазбаўленыя рэзерваў і матэрыяльнай часткі (большасць сіл была накіравана на Захад Польшчы) падраздзяленні польскага Корпуса аховы памежжа павінны былі прыстасоўвацца да новых умоў аховы дзяржаўнай мяжы з Савецкім Саюзам.

Пасля нападу Германіі на Польшчу сітуацыя яшчэ больш пагоршылася. Вось як тыя падзеі ўзгадваў камандзір палка КАП «Вільня» падпалкоўнік Казімір Кардашэвіч:

«Наша выведка на тэрыторыі Літвы паведамляла пра падрыхтоўку гэтай краіны да вайны супраць нас. Аднак пазнейшыя падзеі паказалі, што гэта было далёка ад праўды. Літоўскія ўлады імкнуліся заставацца нейтральнымі ў дачыненні да ўдзельнікаў канфлікту і не збіраліся выкарыстоўваць цяжкую сітуацыю Польшчы ў справе вяртання Віленшчыны. У сваю чаргу падрыхтоўка з боку Расіі засталася па-за ўвагай нашай выведкі.

Немцы набліжаліся. 11 верасня я накіраваўся ў Гродна да камандуючага DOK III. Генерал Юзаф Альшына-Вільчынскі перадаў мне загад галоўнакамандуючага ад 10 верасня, у якім падраздзяленням КАП загадвалася, нягледзячы ні на што, працягваць ахоўваць мяжу з СССР. Абарона Вільні не была прыгатаваная належным чынам, і магчымасці, якія тут былі, не былі выкарыстаны. 17 верасня, у 5 гадзін раніцы, я атрымаў кароткую тэлефанаграму, у якой паведамлялася, што бальшавікі перайшлі мяжу. Гэта цалкам змяніла сітуацыю. Я вырашыў сканцэнтраваць усе памежныя батальёны ў раёне Вільні. [...]


Савецкія памежнікі ў Заслаўі

Ужо 17 верасня адміністратыўныя ўлады перасталі функцыянаваць. Дзяржаўная паліцыя была заменена грамадзянскай аховай. [...] Увечары прыбылі некалькі афіцэраў КАП. Ад іх мы даведаліся, што бальшавікі перайшлі мяжу на ўсіх участках і напалі на польскія стражніцы і роты. На працягу дня Саветы занялі 50 кіламетраў памежнай тэрыторыі. Яны дзейнічалі ў накірунках: Глыбокае—Свянцяны, Вілейка—Ашмяны, Маладзечна—Валожын—Ліда. Чырвонаармейцы гаварылі, што ідуць нам на дапамогу. Афіцэры з мабілізацыйнага цэнтра ў Лідзе расказвалі, што 17 верасня ў Лідзе прызямліўся савецкі самалёт. Польскі камандзір прыняў савецкіх пілотаў у афіцэрскім клубе, а пасля дазапраўкі самалёта, той вярнуўся на свой бок».

## Вайна з Усходу

Аднак часцей за ўсё сустрэча падраздзяленняў Войска Польскага з чырвонаармейцамі заканчвалася крывавым боем. Раніцай 17 верасня 1939 года «Полацкая» група Чырвонай Арміі атакавала стражніцы палка КАП «Глыбокае» (два батальёны) пад камандаваннем падпалкоўніка Яна Святкоўскага. У 4 гадзіны 40 хвілін зводнае падраздзяленне РСЧА напала на стражніцу «Чурылава». Бальшавікам удалося выбіць палякаў з будынку стражніцы і выцесніць апошніх у бок ракі Дзвіны. У выніку бою 5 памежнікаў загінулі, а 7 трапілі ў палон. Стражніцу «Лявонпаль» атакавалі 3 роты чырвонаармейцаў, якіх падтрымліваў савецкі бронецягнік №16.

Вось як тыя падзеі апісваў адзін з відавочцаў: «З ці 4 верасня 1939 года мы ўпершыню ўбачылі бальшавікоў каля ракі. Раней яны не падыходзілі так блізка. Яны пагружалі доўгія шасты ў ваду і быццам бы нешта шукалі. Толькі 17 верасня мы зразумелі, што чырвонаармейцы шукалі брод. З савецкага боку ляталі групы самалётаў з чырвонымі зоркамі і разгортваліся ля мяжы з Латвіяй. Нападзенне адбылося ў 4 гадзіны раніцы. [...] Стражніца знаходзілася 200 метраў ад Дзвіны. Нашы хлопцы адышлі ў лес, а агнявыя пазіцыі КАП бальшавікі накрылі з мінамётаў».

Памежнікі з 22-й самастойнай Ветрынскай памежнай камендатуры НКУС атакавалі стражніцу «Чарапы». У баі загінула чатыры польскія памежнікі і адзін чырвонаармеец. Застава «Копцава» таксама дала адпор бальшавікам, аднак хутка «капісты» адступілі. Адыход прыкрываў сяржант КАП з ручным кулямётам «Браўнінг». Па некаторых дадзеных, яму ўдалося знішчыць некалькі дзясяткаў савецкіх жаўнераў. На ўчастку батальёна КАП «Падсвілле» палякі не змаглі стрымаць наступленне савецкай 5-й стралковай дывізіі і іншых падраздзяленняў. Тое ж тычылася і палка «Глыбокае», які панёс цяжкія страты.

## Першыя дні «вызвалення»

Каб адлюстраваць сітуацыю на савецка-польскай мяжы, прапаную звярнуцца да ўспамінаў відавочцаў. Камандзір стражніцы «Кучкуны» (уваходзіла ў батальён «Івянец»), якая знаходзілася недалёка Заслаўя, сяржант Рудольф Тшос узгадваў, што 17 верасня 1939 года ў 4 ці 5 гадзін з суседняй стражніцы на ровары да яго прыехаў жаўнер і паведаміў, што Саветы напалі на іх. Сярод жаўнераў гарнізона былі забытыя і параненыя. Праз хвіліну снарад ударыў у сцяну стражніцы «Кучкуны». Польскія памежнікі адкрылі агонь у адказ. У гэты момант сяржант пачаў знішчаць дакументы, каб тыя не трапілі ў рукі ворага.

Калі скончыліся боепрыпасы, сяржант Тшос загадаў пакінуць знішчаны будынак. Жаўнеры КАП імкнуліся малымі групамі прарвацца да Валожына. Аднак на наступны дзень, 18 верасня 1939 года, памежнікі трапілі ў бальшавіцкі палон. Арыштаванага Рудольфа Тшоса прывезлі ў Маладзечна, дзе супрацоўнікі НКУС яго дапыталі. Пазней сяржанта разам з іншымі калегамі пагрузілі ў вагон і накіравалі ў лагер у Асташкаве. У красавіку 1940 года польскіх палонных пачалі вывозіць (польскі кантынгент паводле рашэння ад 5 сакавіка 1940 года пачалі знішчаць — І.М.), аднак капісту ўдалося падкупіць вартаўніка (выратаваў залаты гадзіннік) і збегчы. Пазней ён вярнуўся дадому.

> Нягледзячы на моц Чырвонай Арміі, якая 17 верасня перайшла «рыжскую мяжу», часткі КАП аказалі мужны супраціў

А вось як апісваў тыя падзеі адзін з афіцэраў брыгады КАП «Палессе»:

«18 верасня 1939 года наша падраздзяленне выйшла з мястэчка Лунінец у паўночна-заходнім накірунку з заданнем затрымаць наступленне Чырвонай Арміі і злучыцца з групай генерала Клееберга. Пасля некалькіх дзён маршу, у 10 гадзін ля вёскі Дзярэўна ў небе з'явіліся два савецкія знішчальнікі, якія спачатку кружылі досыць высока над нашай калонай, а пазней знізіліся да 70–100 метраў над намі.

Падчас пралёту над намі бальшавікі паказвалі белыя хусткі. Камандзір брыгады, палкоўнік Ражыцкі выдаў загад не страляць па самалётах. Хутка бальшавікі адляцелі ў бок Пінска. Праз паўгадзіны я заўважыў вялікую колькасць самалётаў, якія ляцелі з боку вёскі Дзярэўна. Праз хвіліну пачуліся выбухі і стрэлы з кулямётаў. Жаўнеры спрабаваліся хавацца ў лесе. У выніку гэтай атакі, якая працягвалася каля 15–20 хвілін, загінула 13 нашых жаўнераў, большасць з якіх — мясцовыя палешукі».

## З вінтоўкай супраць танка

29–30 верасня 1939 года ў раёне Шацка памежнікі з брыгады «Палессе», разам з байцамі Войска польскага і маракамі Пінскай рачной флатыліі нанеслі вялікія страты падраздзяленням 52-й стралковай дывізіі РСЧА пад камандаваннем палкоўніка (будучага ўдзельніка абароны Мінска ў чэрвені 1941 года) Івана Русіянава. Пры гэтым польскім жаўнерам удалося знішчыць больш за 10 адзінак савецкай вайсковай тэхнікі.

Нягледзячы на перавагу і баявую моц падраздзяленняў Чырвонай Арміі, якія 17 верасня 1939 года перайшлі «рыжскую мяжу», часткі КАП аказалі ім мужны супраціў. Яны вымушаны былі адыходзіць, бо, як зразумела, з вінтоўкай супраць танка шмат не навоюеш. Больш таго, як бачна з вышэй узгаданых фактаў і ўспамінаў, часцей за ўсё гарнізонам польскіх стражніц (10–20 чалавек) прыходзілася па некалькі гадзін супрацьстаяць батальёну пяхоты, узмоцненаму бронетэхнікай.

Гэтыя людзі абаранялі сваю зямлю. Абаранялі да апошняга.

# «Камяніца–2015»: пад знакам беларускай вышыванкі

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**У гэтым годзе Міжнародны фолк-фэстываль «Камяніца» праводзіўся ў сёмы раз. Бадай, такога пастаянства не мае ні адзін open air, які адбываецца ў краіне.**

Дзве сцэнічныя пляцоўкі, што месціліся на маляўнічых ланшафтах Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах, былі вельмі карыснымі як для выканаўцаў фальклору (ім была адведзена малая сцэна), так і для тых музыкантаў, якім з-за іх электрычнага гучання патрабуецца значная тэхнічная падтрымка і вялікая пляцоўка.

Перад тым, як распачалася праграма «Камяніцы–2015», на галоўную сцэну былі запрошаны прадстаўнікі Міністэрства культуры, Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, генеральнага партнёра фэсту — ААТ Банк БелВЭБ, якія дапамагалі ў арганізацыі «Камяніцы–2015». А ганаровы госць, старшыня Саюза кампазітараў Рэспублікі Беларусь Ігар Лучанок выказаў словы ўдзячнасці арганізатарам за тое, што такі фестываль дазваляе моладзі больш глыбока адчуць шматвяковыя карані нашай фальклорнай спадчыны.

У пацверджанне слоў Ігара Міхайлавіча на фальклорную сцэну выходзілі маладыя выканаўцы, якія нагадалі пра прыгажосць старажытных спеваў і глыбокую філасафічнасць думак нашых продкаў. Гонар адкрыць малую сцэну выпаў дзіцячым калектывам «Folk-Рада» і «Мілавіца», якія парадавалі фальклорнымі пярлінамі — народнымі спевамі «Да ў зялёнай дуброве», вясельнай «Едуць мазуры». А вось самабытны палескі фальклор годна прадставіў гурт «Мярэжа», як выканаў шэраг бытавых і лірычных спеваў, песень каляндарна-абрадавага цыкла — «Ой, сонейка маё жаркае», «Жаль, жаль жа мне на казака». У працяг гэтым выканаўцам, на сцэну быў запрошаны фальклорны гурт беларускіх спеваў «Горынь», які выканаў праграму песень, многія з якіх былі сабраныя ўдзельнікамі калектыву падчас экспедыцый.

Гурт «Варган» прыехаў на фэст у Строчыцы з Полацка. Адразу было заўважна, што яго ўдзельнікі імкнуцца да аднаўлення аўтэнтычнасці ў спевах і ў іх інструментальных апрацоўках, такіх, як «Покуць, мая покуць», «Непраўдзівая», «Галубка на вішні» ды іншых.

Галоўную сцэну адкрываў ветэран «Камяніцы» гурт «Altanka», які разам са сваёй салісткай Дар'яй Лаўрэнцьевай нагадаў пра шырокае выкарыстанне струнных інструментаў: домры, бас-домры, мандаліны, гітары. У выкананні музыкаў прагучалі ўжо знаёмыя слухачам творы паводле беларускага фальклору «Кура-рабушка», «Як на рэчцы», «Лыжка-талерка»...

Своеасаблівым адкрыццём малой фальклорнай сцэны стала выступленне «Этна-суполкі» (кіраўнік Т. Талкунова) Студэнцкага этнаграфічнага таварыства. Калектыў дасягнуў значных творчых вынікаў, сведчанне таму — яго выхад на фолк-сцэну двойчы. Пад акампанемент дуды Вячаслава Касуліна (гурт «Кашлаты Вох») студэнты БДУ-Ка выканалі шмат народных мелодый, якія яны запісалі падчас этнаграфічных вандровак.

Трэба адзначыць, што на тэрыторыі музея была створана яшчэ адна канцэртная пляцоўка, якая мела вялікі поспех у наведвальнікаў. Маю на ўвазе дзіцячую містэрыю «Споведзь пад стрэхамі», якую тройчы за фестывальны дзень выканаў лідар энта-гурта «Троіца» Іван Кірчук. Канцэрт адбываўся пад страхой унікальнага помніка беларускага драўлянага дойлідства — уніяцкай царквы XVIII ст. з вёскі Логнавічы Клецкага раёна.

Перад пачаткам містэрыі Іван Іванавіч распавёў пра гісторыю запісу ўсяго музычнага матэрыялу «Споведзі пад стрэхамі». Таксама пра тое, што песні для гэтай містэрыі ўзяты з выдадзенага ў Галандыі дыска «Спадчына загунуўшых вёсак».

Каляндарна-абрадавая дзея ў выкананні Івана Кірчука яшчэ раз паказала, па словах выканаўцы, глыбіню і мудрасць нашых продкаў, якія пакінулі нам такую самабытную спадчыну. Ну, а сам Іван Кірчук у каторы раз здзівіў слухачоў сваім універсальным майстэрствам фальклорнага выканаўцы, актора, якасцямі шчырага і тактоўнага чалавека.

Не згасае слухацкая любоў да творчасці лідара айчыннай медыевальнай сцэны, гурта «Стары Ольса». Іх сэт паказаў, што ўсе іх кампазіцыі хутка становяцца хітамі. Так стала з кампазіцыямі «Літвін», «А дзе ж тыя ваяры», «Пекна ёсць кола рыцэрска», «Клецкая бітва» і іншымі творамі. Добрай традыцыяй сталі сюрпрызы ад «Старога Ольсы». Гэтым разам музыканты парадавалі апрацоўкай у фолк-стылістыцы песні гурта «Beatles» Obladi Oblada, якая была ўспрынята слухачамі з асаблівым энтузіязмам і апладысментамі.

Яшчэ адзін ветэран «Камяніцы», фолк-гурт «Vuraj» прадставіў праграму на аснове трэцяга па ліку альбома «Раёк», які адзначаны многімі крытыкамі як найлепшы за мінулы год. Таму музыкам прыйшлося ў нейкім сэнсе абараняць высокую адзнаку музычнай грамадскасці Беларусі. Але даказваць нічога не трэба было: высокі выканаўчы ўзровень, арыгінальнае гучанне на аснове спалучэння аўтэнтыкі і сучасных формаў этнічнай музыкі, джазавых інтэрпрэтацый і вакалу лідара калектыву Доўгушава зрабілі сваю справу. Асаблівую прыхільнасць музыканты гурта «Vuraj» здабылі выкананнем сваіх вядомых кампазіцый: «Ой, ляцелі гусі», «За валамі», «Гаю, мой гаю»

Гамяльчане з фолк-праекта «Ягорава гара» пад кіраўніцтвам Архіпава ад фолк-аўтэнтыкі перайшлі да стварэння кампазіцый, якія спалучаюцца на аснове двух-трох народных песень. Для надання сучасных рысаў сваім апрацоўкам гомельскія выканаўцы шырока выкарыстоўваюць камп'ютарныя тэхналогіі. Так, адна з кампазіцый была створана на аснове народных мелодый «Я скакала, я плясала» і «Бывала, не бывала». Таксама, гамяльчане адзначыліся сваімі аўтарскімі прыпеўкамі, адна з якіх была прысвечана «Камяніцы».

Яшчэ адна фестывальная традыцыя — вечаровы фолк-рок-канцэрт, гэтым разам міжнародны. Першыя госці з Польшчы, гурт «Dzikie Jablka» адзначыўся на фэсце разнастайнымі ўдарнымі інструментамі, якія маюць нават афрыканскае паходжанне. Але такая ўжо канцэпцыя гэтага world-music гурта: важна данесці да слухачоў прыцягальнасць і спрадвечнасць «музыкі людовай». А вось, як толькі музыкі зайгралі найгрыш «Мазур», дык ногі самі пайшлі ў скокі. У выкананні «Dzikie Jablka» прагучалі і шчадроўкі, і рэкруцкія песні, падобныя да нашых, беларускіх напеваў. Хоць у фальклоры кожнай краіны заўсёды ёсць свае адметнасці. Гэта падкрэслілі сваёй творчасцю польскія музыканты.

Было цікава пазнаёміцца і з творчасцю ўкраінскіх фолк-рок-музыкантаў з гурта «ДрымбадаДзига». Многія беларускія слухачы ведаюць хіты ўкраінскіх братоў і заспявалі іх разам з вакалісткай «ДрымбадаДзига», артыстычнай і пластычнай Вольгай Траян. А гэта такія кампазіцыі, як «Паравая машына», «Муха», «Каламыйка», «Біла мяне мацi»...

Эстонскі этна-гурт «Trad Attack!» — адзін з самых тытулаваных у гэтай балтыйскай краіне. На ESTONIAN MUSIC AWARDS 2014 гурт, іх альбом і песня былі названыя лепшымі. Аснова гучання «Trad Attack!» — сінтэз народных мелодый, зайграных на эстонскай bagpipe (ці, па-нашаму, дудзе) і варгане з рок-рыфамі акустычнай дванаццаціструннай гітары. Трэба адзначыць уражваючае выканаўчае майстэрства эстонскіх музыкантаў (такім яно было нават пры СССР) і асабліва Сандры Сілома, якая ўразіла беларусаў сваім узорна чыстым выкананнем на эстонскай дудзе, варгане і тэнар-саксафоне.

Завяршыў вечаровы канцэрт гурт «Znich», які выступаў на фэсце ў абноўленым складзе. Старыя хіты і новыя кампазіцыі харызматычнага Алеся Таболіча і яго каманды сталі добрай, пазітыўнай кодай для сёлетняй «Камяніцы».

Фестываль скончыўся, калі сонца ўжо зайшло за далягляд. Але нават у цемрадзі можна было ўбачыць тое, колькі дзяцей, моладзі і людзей старэйшага веку ўпадабалі беларускую вышыванку, старажытныя нацыянальныя карункі і абярэгі. Бадай, упершыню грамадскі трэнд на нацыянальныя рысы ў вопратцы падтрыманы народнымі майстрамі і гандлярамі, якія ў патрэбны час змаглі прапанаваць ахвочым вышыванкі, вышымайкі і шмат іншага фестывальнага мерчу ў нацыянальным стылі. Добры знак!



Танцавальная віхура на «Камяніцы»



На дудзе грае Вячаслаў Касулін



Сандра — зорка эстонскага фолк-рока



Любімцы публікі — «Стары Ольса»



Дзіцячая пляцоўка для будучых мастакоў

# «Белкіналета–2015»: Кіно пад кроплямі дажджу

Пятро КАМЕНЬ

**Праект «Белкіналета–2015» ад фестывалю кароткаметражнага кіно «Cinema Perpetuum Mobile» завяршыўся. У дворыку за Нацыянальным гістарычным музеем на вялікім экране на працягу некалькіх месяцаў паказвалі анімацыйныя, ігравыя і дакументальныя стужкі ад маладых беларускіх аўтараў.**



Кадр з мультфільму «Вялікая Казява і малая Казяўка»

Не стала выключэннем і апошняя фестывальная пятніца. 4 верасня надвор'е было сапраўды восеньскім, у другой палове паказу нават пайшоў дождж, але ён не здолеў спалохаць прагных да новага беларускага кіно гледачоў. А дэманстравалі вось што.

Фільм «Невядомы мужчына» Дзмітрыя Дзядка — спроба дакрануцца да ўнутранага свету мінскага мастака, які хаваецца пад псеўданімам А.Р.Ч. Галоўны герой — сапраўдны мастак А.Р.Ч., і ён насамрэч працуе ў моргу ды малюе звышэкспрэсіўныя, звышнеўратычныя, звышбрутальныя карціны. Аднак фільм Дзядка — не дакументальная стужка, а гульнявая сацыялка пра цяжкі ды бязлітасны побыт. Дзмітрый Дзядок паказвае шпацыры галоўнага героя ад адных індустрыяльных краявідаў да іншых, яго знарочыстых сяброў-алкаголікаў, недарэчны Новы год, а суіцыд (ці то мара пра суіцыд) на фоне прамысловага пейзажу выглядае ненатуральным фіналам.

Марыя Манакова і Дзмітрый Ляўкоўскі абралі для свайго фільма пра выпадковую сустрэчу былых да самотных каханкаў у асеннім лесе рэдкі для айчыннага кіно жанр рамантычнай камедыі. Створаная ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтва стужка «Шчаслівыя дні» не пазбаўлена вучнёўскай недасканаласці ды пэўнай ненатуральнасці, але ўражвае шчымлівай кульмінацыйнай сцэнай, што сталася безумоўнай творчай удачай.

Дакументальны фільм «Дарога да сонца» Яўгена Лыткіна і Максіма Малахава са студыі «Чырвоны баян» распавядае пра гаротны лёс правінцыйных музыкаў. Стужка грунтуецца на паказе кантрасту жыцця маладога барысаўскага гурта «SUN ROAD-21» і поспехаў сталічных герояў-музыкаў ды суправаджаецца едкімі каментарамі ад музычнага крытыка Аляксандра Чарнухі. Беларуская музычная правінцыя, як тлумачыць Чарнуха, — шэрая маса бесперспектыўных гуртоў, якія граюць другасную музыку. Дзеля таго, каб займацца толькі музыкай, удзельнікі гурта «SUN ROAD-21» вымушаны граць каверы. Гэта размыльвае музычнае ўспрыманне, і ўласная творчасць — пра якую музыкі мараць у першую чаргу — падаецца другаснай, няшчырай, недзе ўжо чутай.

На кантрасце з «SUN ROAD-21» Віталь Артыст ды ягоны «БЕЗ БІЛЕТА» збірае сталічны клуб «RE:PUBLIC» двойчы за адзін дзень. Віталь Артыст пачувае сябе добра і ўпэўнена заяўляе, што ў Беларусі ўсё цудоўна з рок-, поп- і індьі-музыкай, а Беларусь — неабсяжная радзіма талентаў. У такім кантэксце дакументальны фільм набывае рысы трагікамедыі. Самая шчымлівая сцэна ў фільме — выступ барысаўцаў у мясцовым клубе, дзе музыкі граюць каверы перад п'янюткай аўдыторыяй постсавецкага кшталту.

«І шчасце» Максіма Шведа — сацыяльнае дакументальнае кіно. З пазіцыі эстэтыкі фільм на такую важную тэму, як уключанасць у грамадства дзяцей з асаблівасцямі развіцця, ацэньваць складана. Максім Швед паказвае школу, у якой звычайныя дзеткі вучацца разам з дзеткамі-аўтыстамі. Камера назірае за другакласнікам, маці распавядае пра яго ў закадравым інтэрв'ю. Споведзь маці прасякнутая надзеяй на паспяховую сацыялізацыю сына.

Блок айчыннай анімацыі быў прадстаўлены мультфільмамі «Вялікая Казява і малая Казяўка» Дзмітрыя Шастапалава, «Мульт пра вяселле» Аляксандры Падкапаевай і Марысі Тульжанковай, а таксама «ОБНЦБНЧА» Максіма Лушчыка.

Мультфільм «Вялікая Казява і малая Казяўка» ад студыі імя святога Іаана Воіна з'яўляецца часткай зборніка «Для самых маленькіх». Гэта простая гісторыя з відавочным маральным падтэкстам пра шчырасць ды сяброўства. Даросламу гледачу адзінай хібай мультфільма можа падацца менавіта гэтае маралізатарства. Аднак мэтавая аўдыторыя гэтай анімацыі — дзеткі самага маленькага ўзросту. І ў такім кантэксце гэта бездакорна прыгожы мультфільм з неверагодна яркімі фарбамі ды маляўнічымі пейзажамі, на фоне якіх знаёмства маленькай Казяўкі ды вялікай Казявы разгортваецца ў самым чароўным сусвеце.

> **Пазбаўленыя любых бюджэтаў творцы эксперыментуюць ды вынаходзяць уласныя жанры, будуюць уласны анімацыйны сусвет**

Дакументальная гумарэска пра традыцыйнае беларускае вяселле была створана ў якасці дадатку да этнаграфічнай экспедыцыі моладзевай краязнаўчай арганізацыі «Талака» ў Брагінскі раён Гомельскай вобласці. «Мульт пра вяселле» — магчыма, першы вопыт стваральнікаў у анімацыі, таму аўтарам хочацца сказаць шчыры дзякуй за намаганні ды пажадаць творчага развіцця.

Абсалютны фаварыт вечару — анімацыя «ОБНЦБНЧА» беларуса з Санкт-Пецярбурга Максіма Лушчыка. Бездакорны анімацыйны хіт, які знаёміць гледача з некаторымі асаблівасцямі падлеткавага сталення ў постсавецкія 90-я гады. У аўтара атрымалася перадаць смак постсавецкага дзяцінства, калі заходняя культура пранікала ў розумы ўчорашніх піянераў разам з фільмамі пра Рэмба ды Шварцэнэгера. Кожны сегмент зроблены сакавіта ды па-майстэрску, проста ды густоўна, вынаходліва. Менавіта такой і мусіць быць сучасная незалежная анімацыя. Пазбаўленыя любых бюджэтаў творцы эксперыментуюць ды вынаходзяць уласныя жанры, будуюць уласны анімацыйны сусвет.

Агульныя ўражанні ад фестывалю «Белкіналета» супярэчлівыя. Безумоўна, гэта цудоўная ініцыятыва па праглядзе сучаснага беларускага кіно ўсіх напрамкаў ды стыляў — ад дзіцячай анімацыі да сацыяльнай дакументалістыкі — заслугоўвае пашырэння ды развіцця. З іншага боку, мастацкі ўзровень фільмаў вельмі разнародны, і дамінуе ўсё ж вучнёўства ды аўтарскае станаўленне. Тым не менш, цешыць, што новае беларускае кіно знаходзіцца ў руху, а значыць, адбудуцца і якасныя змены.

# ТБМ запрашае ў вандроўку

**Да чарговых угодкаў Аршанскай бітвы Таварыства беларускай мовы запрашае ў вандроўку на Аршаншчыну.**

Вядоўца — цудоўны магілёўскі экскурсавод і краязнаўца Алег Дзячкоў. Таксама ў вандроўцы бяруць удзел вядомы мастак Мікола Купава ды беларускія барды Андрэй Мельнікаў і Зміцер Захарэвіч.

Напачатку вандроўкі мы завітаем у славутыя Смаляны, дзе ва ўладаннях аднаго з самых знакамітых княжацкіх родаў ВКЛ — Сангушкаў — з кожным поглядам і кожным крокам усё мацней вы будзеце адчуваць подых стародаўніх легенд і гістарычны рэалій мінулых эпох.

Там мы пабачым:

- Рэшткі замку Белы Ковель — княжацкай рэзідэнцыі, узведзенай па апошнім слове інжынернага майстэрства XVI ст. А таксама даведаемся, чаму ў Смалянах памятаюць Бону Сфорцу, ды з якой нагоды гэтая фартэцыя завецца Белым Ковелем...
- Касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі — познебарочную святыню, трагічны лёс якой і сёння застаецца пад пытаннем...
- Царкву Праабражэння Гасподняга — узор драўлянага дойлідства XVIII ст., што хавае ў сваіх сутарэннях гістарычныя таямніцы і архітэктурныя галаваломкі.
- Царкву Святога Аляксея — увасабленне псеўдарускага стылю сярэдзіны XIX ст. на тутэйшы манер.
- Магілу Тамаша Зана — менавіта ў Смалянах знайшоў свой апошні спачын знакаміты філамат Тамаш Зан, навуковец, паэт, сябра Міцкевіча, Чачота, Дамейкі.

Далей у праграме — сядзіба і парк Любамірскіх XIX ст. у вёсцы Юрцава.

І вядома, мы наведаем непасрэднае месца бітвы пад Оршай у 1514 годзе ля вёскі Крапіўна, дзе пабачым памятныя крыжы ды камяні ў гонар гэтай славутай перамогі і яе герояў.

А напрыканцы вандроўкі нас чакае старажытная Орша, пабудаваная яшчэ князем Глебам Менскім летапісная Рша, што ўпершыню згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067 годам.

У Оршы мы пабачым:

- Аршанскае Замчышча, дзе стаялі сцены магутнага замка і шмат разоў яго абаронцы вытрымлівалі варожы націск.
- Царкву Святой Троіцы і Куцеінскі Богаяўленскі манастыр, дзе дзейнічала знакамітая друкарня Спірыдона Собаля і дзе быў выдадзены адзін з першых беларускіх падручнікаў.
- Калегіум езуітаў — навучальную ўстанову, што была фундаваная па сродкі самога Льва Сапегі ды з каралеўскай казны Жыгімонта ІІІ.
- Касцёл Святога Язэпа — незвычайны прыклад барочнай архітэктуры, воблік якога мяняўся праз гады, дзе яшчэ ў сярэдзіне XVII ст. знайшлі прытулак манахі-дамінікане.





- Вадзяны Млын — помнік прамысловай архітэктуры пачатку XX ст., у якім зараз знаходзіцца этнаграфічны музей.

Маршрут (~520 км): Мінск — Смаляны — Юрцава — Крапіўна — Орша — Мінск.

Запіс на вандроўку па тэл.: +375 5513236 (спадар Мікола), дадатковая інфармацыя па тэл. +375291342804 (Валерыя).

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
Намеснік галоўнага рэдактара **Колб Аксана Мікалаеўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1179

Падпісана да друку 11. 09.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.